11 снежня 2015 | № 47 (464)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10047

Мінск. Гады студэнцкія
стар. 14–15

**4 БЕЗ ВЕСТАК ЗНІКЛЫ ЎРАД**

Пасля выбараў мінула ўжо два месяцы, але кіраўнік Беларусі дагэтуль не прызначыў новы ўрад. Чаму?

**5 НАША СІСТЭМА АДУКАЦЫІ НІКОЛІ НЕ БЫЛА ТАКОЙ ЗАКРЫТАЙ**

Пра тое, ці будуць студэнты з Еўрасаюза вучыцца ў беларускіх універсітэтах, расказвае сябра Грамадскага Балонскага камітэта, прафесар філасофіі Уладзімір ДУНАЕЎ

**6 ПРАМОВА СВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ: ШТО МЫ ХАЦЕЛІ ПАЧУЦЬ**



Чаго вядомыя беларусы чакалі ад Банкетнай прамовы Нобелеўскай лаўрэаткі?

**13 БЛАКІТНАЕ ЦУНАМІ**

Некалькі гадоў таму Марын Ле Пэн абвясціла кампанію «Блакітная хваля» для папулярызацыі сваёй партыі. Калі меркаваць па выніках першага туру мясцовых выбараў у Францыі, хваля ператвараецца ў цунамі

# Хтосьці за ўсё адкажа

**Кіраўнік Беларусі нечакана з'ездзіў у турнэ па экзатычных краінах**



Сяргей ПУЛЬША

Гэты тыдзень Беларусь пражыла без свайго правадыра, які выправіўся ў чарговы міжнародны вояж. У Пуціна зараз сваіх праблемаў хапае. Таму Аляксандр Рыгоравіч выправіўся не ў Расію, а ў В'етнам і Туркменістан.

Згодна з паведамленнем прэс-службы беларускага кіраўніка, ніякіх прарываў з гэтых візітаў не будзе. У В'етнаме ў яго запланаваныя перамовы з калегам Чыонг Тан Шангам, сустрэчы з генсекам Камуністычнай партыі В'етнама Нгуен Фу Чонгам і прэм'ер-міністрам Нгуен Тан Зунгам.

У Туркменістане Лукашэнка сустрэнецца з тамтэйшым кіраўніком Гурбангулы Бердымухамедавым, наведае сумесную беларуска-туркменскую выставу-кірмаш, Алімпійскі гарадок і прыме ўдзел у Міжнароднай канферэнцыі «Палітыка нейтралітэту: міжнароднае супрацоўніцтва ў імя міру, бяспекі і развіцця».

Кіраўнік Беларусі з'ехаў у той час, калі ёсць багата не вырашаных і даволі прынцыповых пытанняў ТУТ. Па-ранейшаму не вядома, з якімі раскладамі і прагнозамі мы сустрэнем новы, 2016 год. Канешне, ёсць «прынцыпова ўхваленыя» праекты прагнозу асноўных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця, бюджэту і грашова-крэдытнай палітыкі краіны на 2016 год. Урад за час адсутнасці кіраўніка дзяржавы мусіць іх дапрацаваць.

Гэта вельмі дзіўна, асабліва ўлічваючы тое, што мы зараз знаходзімся, так бы мовіць, у «рэвалюцыйнай сітуацыі». У тым сэнсе, што наш урад, які ёсць і працуе зараз, — часовы. Справа ў тым, што традыцыйна пасля выбараў, а канкрэтна 16 кастрычніка, у адпаведнасці з Канстытуцыяй, урад на чале з прэм'ер-міністрам Андрэем Кабяковым склаў свае паўнамоцтвы перад «наноў абраным» кіраўніком дзяржавы і сышоў у адстаўку. Лукашэнка ж у сваю чаргу падпісаў указ аб тым, што «стары ўрад» будзе выконваць свае абавязкі да прызначэння новага.

А новага ўрада вось ужо два месяцы як не прызначана.

Атрымліваецца, што галоўныя фінансавыя дакументы краіны распрацоўваюць тыя людзі, якія фармальна ні за што ўжо не адказваюць, і з'яўляюцца ўсяго толькі «выконваючымі абавязкі».

Між тым, менавіта ад гэтых людзей залежыць, куды пойдзе краіна ў будучыні. Асабліва, калі розныя міжнародныя крэдыторы, ад якіх мы плануем атрымаць грошы на будучыню (а канкрэтна — Міжнародны валютны фонд і Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця), патрабуюць уключэння праграмы рэформаў у тыя самыя асноўныя фінансавыя дакументы краіны. Прынамсі, спыненне «перакрыжаванага» субсідавання ЖКГ якраз адаб'ецца на бюджэце. Тое ж тычыцца павышэння тарыфаў субсідаванага транспарту, і гэтак далей. І, зразумела, без адпаведнага бюджэту, грашова-крэдытнай палітыкі і праграмы рэформаў не відаць нам гэтых крэдытаў як сваіх вушэй.

Але спыненне ў 2016-м розных датацый і льготаў непазбежна адаб'ецца на ўзроўні дабрабыту насельніцтва. Гэта разумее і сам Аляксандр Рыгоравіч. «Год будзе праходзіць ва ўмовах жорсткіх бюджэтных абмежаванняў. Нам трэба забяспечыць макраэканамічную стабільнасць», — папярэдзіў ён усіх 7 снежня на нарадзе аб праектах прагнозу, бюджэту і грашова-крэдытнай палітыкі на 2016 год.




> **Можна будзе дэ-факта адпраўляць у адстаўку ўжо дэ-юрэ адстаўлены ўрад**

Жыць стане яшчэ цяжэй. І за гэта павінен быць нехта адказны.

Ужо не першы раз заўважана: як толькі ўзнікае неабходнасць прыняцця нейкіх важных, але непапулярных рашэнняў — Аляксандр Рыгоравіч выпраўляецца ў нейкую замежную вандроўку. І адтуль глядзіць: прайшло гэтае рашэнне ці не. У любы момант можна вярнуцца і заўважыць, што рашэнне было прынятае без ягонага ведама і ўхвалення. І заўсёды можна найвышэйшым указам «адкруціць назад». А калі народ праглыне чарговую непапулярную навацыю, значыць, гэта так і трэба, так таму і быць.

Магчыма, таму што «часовы ўрад» рыхтуе прыняцце звышнепапулярных дакументаў, Аляксандр Рыгоравіч і вырашыў з'ездзіць у экзатычныя краіны.

Напрыклад, улады ўжо абвясцілі пра павышэнне з 15 снежня тарыфаў на праезд у грамадскім транспарце. У 2014 годзе гэтыя тарыфы павышаліся тройчы. Пра 100-працэнтную аплату насельніцтвам паслуг ЖКГ казалася ўжо неаднаразова, хаця самі камунальнікі нават Аляксандру Рыгоравічу свой каштарыс, нягледзячы на яго патрабаванне гэта зрабіць, не прадставілі.

Зразумела, што пасля такіх крокаў можна будзе дэ-факта адпраўляць у адстаўку і так ужо дэ-юрэ адстаўлены ўрад, усклаўшы на яго адказнасць за «антысацыяльную палітыку».

Праўда, ці хопіць на гэта толькі адной вандроўкі па экзатычных краінах? Можа быць, і не, але ў планах у Аляксандра Рыгоравіча ёсць, прынамсі, адкладзены візіт у Расію. Дый мала куды можна будзе злятаць яшчэ?

# Зноў штраф за Свіслач

**У Свіслацкім раённым судзе адбыўся разгляд справы праваабаронца Уладзіміра Хільмановіча па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваных мітынгу і шэсці.**

Менавіта так было кваліфікавана мясцовай міліцыяй ушанаванне ў гэтым раённым цэнтры памяці паўстанцаў 1863 года і ўсіх палеглых за Беларусь, што адбылося 31 кастрычніка.

На самым пачатку працэсу, які вяла суддзя Жана Салагубік, Уладзімір Хільмановіч заявіў некалькі хадайніцтваў і звярнуў увагу на тое, што ідзе ўжо не першы аналагічны судовы працэс над удзельнікамі Дня памяці, ёсць асуджаныя да штрафаў, але самога факту правядзення мітынгу і шэсця суд юрыдычна так і не даказаў. У ходзе працэсу Хільмановіч неаднаразова задаваў пытанні на гэтую тэму сведкам, якімі былі тыя самыя супрацоўнікі міліцыі, што складалі пратакол, але ніхто з іх так і не змог растлумачыць, чаму дадзеная мемарыяльная акцыя падпадае пад вызначэнне мітынгу і шэсця, а не з'яўляецца наведваннем у знакавы памятны дзень магілаў славутых продкаў і памятных мясцін, звязаных з паўстаннем.

Аднак нягледзячы на шмат пытанняў, адказаў на якія суд так і не даў, суддзі Жанне Салагубік не спатрэбілася аніводнай хвіліны на абдумванне. І яна агучыла рашэнне — 40 базавых велічынь штрафу.

**Паводле spring96.org**

# Амерыканка. All included

Генадзь КЕСНЕР

**Фільм рэжысёра Віктара Корзуна «Амерыканка. All included» атрымаў галоўны прыз на Szczecin European Film Festival. Па меркаванні журы, фільм адкрывае новыя перспектывы ў дакументальным жанры.**

Фільм распавядае пра жыццё ў турме беларускага КДБ палітолага, журналіста, пісьменніка Аляксандра Фядуты. Пасля выбараў 2010 года Фядута знаходзіўся ў зняволенні 110 дзён. Па словах Віктара Корзуна, ідэяй фільма было перакласці жахлівую рэчаіснасць на мову літаратуры, замяніць жанр з драмы на камедыю. У гэтым выпадку страшэнная дзяржаўная махіна паказваецца ў іранічных тонах,ператвараецца ў карыкатуру на саму сябе. Аляксандр Фядута паўстае перад гледачамі ў адным з самых сакрэтных месцаў краіны. А паколькі весці здымкі на тэрыторыі ўнутранай турмы КДБ немагчыма, аўтары стварылі анімаваны варыянт «амерыканкі».

Аўтарамі сцэнару выступілі Аляксандр Фядута (ён жа і выканаўца ролі самога сябе) і Віктар Корзун, прадзюсарам стала Кася Камоцкая. Таксама ў працы ўзялі ўдзел аператары Наталля Шырк і Яўген Жоўты, гукарэжысёр Тарас Сянчук, мастакі Анатоль Тадорскі і Віктар Тумар. Фільм здымаўся ў Кіеве ў павільёне кінастудыі імя Даўжэнкі ў 2013 годзе, яшчэ да расійска-украінскай вайны.

Віктар Корзун звяртае ўвагу на той факт, што ягоны фільм атрымаў Гран-пры «за новыя формы развіцця рэжысуры ў дакументальным кіно»: «Гэта ўзнагарода — не проста за тэму правоў чалавека, не проста за тэму беларускіх палітвязняў, але, паводле меркавання журы, за творчыя дасягненні».

У той жа час, кажа рэжысёр, ён пакуль што не імкнецца да шырокага распаўсюду свайго твора ў Беларусі.

«Мы не спяшаемся паказваць у Беларусі гэты фільм, але гэта не значыць, што час гэтага фільма прайшоў. На жаль, фільм актуальны», — мяркуе Віктар Корзун.

# Дзень правоў чалавека

**Сёлета ў Дзень правоў чалавека ААН распачала кампанію, прысвечаную 50-й гадавіне Міжнароднага пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах і Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.**

Гэтыя міжнародныя дамовы былі прынятыя Генеральнай Асамблеяй ААН 16 снежня 1966 года.

Кампанія ААН «Нашыя правы. Нашыя свабоды. Заўжды», закліканая павысіць узровень інфармаванасці пра два пакты, надае асноўную ўвагу тэме свабоды слова, веравызнання, свабоды ад нястачы і страху. Для беларусаў Камітэт ААН па правах чалавека — адзіная міжнародная інстанцыя, куды яны могуць звярнуцца ў сувязі з парушэннем правоў грамадзян уладамі. Першая скарга ў КПЧ была пададзеная ў 1997 годзе. Камітэт зарэгістраваў 180 скаргаў з Беларусі. У 79 з іх устаноўлены парушэнні правоў, разгляд васьмі скаргаў перапынены ў сувязі з тым, што страчаная сувязь з аўтарамі. 17 скаргаў былі прызнаны непрымальнымі (парушэнне ўмоў падачы). У двух выпадках было прызнана, што парушэння правоў не адбывалася. Па звестках на жнівень 2015 года, 76 скаргаў чакалі свайго разгляду.

**Паводле spring96.org**

# Праваабаронцы ўручылі прэміі

Генадзь КЕСНЕР

**У Мінску адбылося ўрачыстае ўганараванне лаўрэатаў штогадовай прэміі за дасягненні ў галіне правоў чалавека. Сёлета яна ўручалася ў трох намінацыях: «Асоба», «Праваабаронца года» і «Журналіст года ў галіне правоў чалавека».**

Журы конкурсу складаецца з кіраўнікоў беларускіх праваабарончых арганізацыяў, а таксама з лаўрэатаў прэміі мінулых гадоў.

У намінацыі «Асоба» гэтым разам перамог вядомы грамадскі дзеяч, журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валеры Шчукін.

Уручаючы яму ганаровы дыплом, кіраўнік зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі адзначыў: «Гэта загартаваны баец, які ўсё жыццё спрабуе даказаць грамадству, чыноўнікам, кіраўніцтву, што трэба жыць па-людску, што трэба ставіцца да чалавека па-чалавечы. Не шкадуючы свайго здароўя, ён кідаўся ў барацьбу за правы чалавека. На гэтым цяжкім шляху ён меў багата непрыемнасцяў, яго бясконца затрымлівалі, судзілі па адміністрацыйных справах за ўдзелы ў пікетах, дэманстрацыях, за арганізацыі больш сур'ёзных мерапрыемстваў. Былі і крымінальныя справы. Уручаючы Валерыю Шчукіну прэмію, мы хочам, каб лёс такіх людзей быў прыкладам для наступных пакаленняў, каб яны бескампрамісна змагаліся за свабоду, за правы чалавека, не прыстасоўваліся, не мімікрыравалі, не ішлі на пагадненне са сваім сумленнем».

Прэмію ў намінацыі «Праваабаронца года» атрымаў вядомы юрыст, намеснік кіраўніка «Вясны» Валянцін Стэфановіч, які 17 гадоў таму разам з Бяляцкім ствараў гэтую арганізацыю. Як адзначыла старшыня зарэгістраванага ў Літве «Праваабарончага альянсу» Людміла Грязнова, лаўрэат годна прадстаўляе айчынную праваабарончую супольнасць на міжнароднай арэне, сам часта прысутнічае на судовых працэсах, актыўна ўдзельнічае ў дыскусіях і выступае ў сродках масавай інфармацыі.

Лаўрэатам прэміі ў намінацыі «Журналіст года ў галіне правоў чалавека» стаў Зміцер Лукашук, карэспандэнт «Еўрапейскага радыё для Беларусі».

Пасля шэрагу інтэрв'ю з украінскімі добраахвотнікамі, валанцёрамі, байцамі ўзброеных сіл Украіны і праваабаронцамі, рэдакцыя «Еўрарадыё» прыняла рашэнне даць пазіцыю іншага боку. У выніку ў эфір і на сайце выйшлі інтэрв'ю Лукашука з так званым прэм'ер-міністрам ДНР Аляксандрам Захарчанкам. А праз некалькі дзён да «Еўрарадыё» звярнуўся валанцёр з Херсона Дзмітрый Углач, які займаецца дапамогай ваеннапалонным у занятым сепаратыстамі Данецку.

Прапанова ўкраінскага валанцёра была ў наступным: выйсці яшчэ раз на Захарчанку і ад імя «Еўрарадыё», спасылаючыся на распачатыя ў Мінску перамовы па ўрэгуляванні канфлікту ва Украіне, папрасіць яго паспрыяць вызваленню шэрагу палонных. «Еўрарадыё» зноў звярнулася да Захарчанкі, даслала спіс з прозвішчамі ваеннапалонных. Перамовы цягнуліся амаль два тыдні, але нечакана, без папярэджання з боку ДНР, група палонных была вызваленая. Беларускія праваабаронцы лічаць, што ў гэтым ёсць непасрэдная заслуга і Змітра Лукашука.

Нагадаем, што Прэмію заснавалі ў 2008 годзе «Праваабарончы альянс».

# Народны рэферэндум прыпынены

**Рух «За Свабоду», Партыя БНФ і БСДП (Грамада) выступілі з заявай пра спыненне каардынацыі супольнай працы ў межах кампаніі «Народны рэферэндум».**

Кампанія «Народны рэферэндум» была ініцыявана Рухам «За Свабоду», Партыяй БНФ, грамадзянскай кампаніяй «Гавары праўду» ў маі 2013 года. Пазней, у 2013 годзе, да ініцыятывы далучылася Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), кампанію падтрымлівалі шэраг іншых грамадска-палітычных арганізацыяў Беларусі.

Галоўнай ідэяй было сфармуляваць важныя пытанні жыцця і будучыні Беларусі як незалежнай дэмакратычнай дзяржавы, вынесці іх на ўсенароднае абмеркаванне і дасягнуць агульнанацыянальнага кансенсусу.

З 2013 года і да пачатку кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі ў 2015 годзе былі сабраныя подпісы беларусаў у падтрымку правядзення рэферэндуму як законнага спосабу мірных пераменаў у краіне. З гэтых подпісаў 50 тысяч былі пададзены ў Палату прадстаўнікоў.

«Мы з вялікім жалем канстатуем, што супольна напрацаваны патэнцыял быў неналежным чынам скарыстаны адным з партнёраў дзеля дасягнення ўласных тактычных задачаў, далёкіх ад першапачатковых мэтаў, — гаворыцца ў заяве кіраўніцтва Партыі БНФ, БСДП (Грамада) і Руху «За Свабоду». — У выніку быў падарваны як давер грамадства да кампаніі «Народны рэферэндум», так і давер паміж арганізацыямі-ўдзельніцамі НР. Праз гэта падчас прэзідэнцкай кампаніі каардынацыя паміж ініцыятарамі НР была спыненая. Дэ-факта, «Народны рэферэндум» быў разбураны як агульнанацыянальная надпартыйная кампанія, што базавалася на даверы, роўнасці і каардынацыі партнёраў і задумвалася як значна шырэйшая за выбарчыя кампаніі ды праграмы асобных кандыдатаў. У дадзенай сітуацыі мы канстатуем, што кампанія «Народны рэферэндум» страціла свой патэнцыял і не можа існаваць у ранейшым фармаце. Мы заяўляем аб спыненні супольнай ініцыятывы «Народны рэферэндум» і далейшай супольнай працы па папулярызацыі яе пытанняў».

У той жа час аўтары заявы перакананыя, што ідэі «Народнага рэферэндуму» застаюцца актуальнымі для Беларусі.

**Паводле прэс-рэлізу**

# Зялёныя зоны гарадоў зменшацца

**У Беларусі неўзабаве распачне дзеянне новая рэдакцыя «Лясного кодэксу». Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прынялі адпаведны закон у другім чытанні.**

Новы «Лясны кодэкс» можа істотна зменшыць плошчы зялёных зонаў вакол гарадоў, а супрацьэразійныя насаджэнні ўвогуле могуць знікнуць.

«У нас уніфікацыя заканадаўства чамусьці робіцца з Расіяй, а не з цывілізаванымі краінамі. У Расіі лясная гаспадарка проста загубленая, лясгасаў не існуе. Хто што хоча, тое і робіць. Я гэта ведаю і магу дакладна сказаць, што толькі ў некалькіх рэгіёнах Расіі існуе парадак. А ў астатняй Расіі не проста беспарадак, а ідзе вынішчэнне лясоў па поўнай», — лічыць гомельскі прадпрымальнік Яўген Скочка, які выкарыстоўвае драўніну ў будаўнічых мэтах.

«Нараканне выклікае новае руйнаванне зялёных зонаў вакол населеных пунктаў. Так, напрыклад, для Мінска раней зялёная зона мусіла складаць не менш за 15 кіламетраў. А зараз гэтая норма будзе скарочаная да 5 кіламетраў. Для іншых гарадоў гэта будзе 2 кіламетры. Для буйных аб'ектаў, кшталту санаторыяў, там наогул норма будзе толькі 200 метраў. Што значна менш, чым было раней», — падкрэсліў рэдактар «Зялёнага парталу Гомельшчыны» Яўген Меркіс.

Эколагі і грамадскасць неаднойчы ініцыявалі публічныя абмеркаванні з распрацоўшчыкамі «Лясного кодэксу». Для грамадскага ціску на ўладу нават збіраліся подпісы. Пад адной з такіх петыцыяў падпісаліся каля 17 тысяч грамадзян. Аднак крытычныя заўвагі прадстаўнікоў экалагічных арганізацыяў былі праігнараваныя.

**Паводле Беларускага Радыё Рацыя**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нічога смешнага

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Хутка святы. Большасць грамадзян краіны ўжо задумваюцца аб тым, што і каму пакладуць пад ёлку. І не менш актуальным застаецца пытанне: а ці будзе за што купляць падарункі?**

Мы, канешне, ведалі, што сітуацыя ў нас кепская. Але апошнія навіны і падлікі паказваюць, што яна нават вельмі небяспечная. І наступны, 2016 год, для краіны будзе звышвыпрабавальным.

Пачнём са звыклага. Як неаднаразова ўжо згадвалася, нашы золатавалютныя рэзервы складаюць зараз $4,6 мільярда. У наступным годзе нам трэба будзе выдаткаваць на знешні дзярждоўг $3,3 мільярда. То бок, грошай няма. І не будзе.

На тыдні стала вядома, што Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця адклаў рашэнне пра выдзяленне Беларусі новага крэдыту. Пра гэта сказаў у Маскве 8 снежня міністр фінансаў Расіі Антон Сілуанаў.

Паводле яго слоў, пытанне аб выдзяленні крэдыту разглядалася на пасяджэнні савета фонду. «Мы хацелі б атрымаць канкрэтныя вынікі чаць прыватызацыю прадпрыемстваў. «Мы хацелі б вызначыць больш значную колькасць структурных мер пры даванні першага траншу, бо ён найбольш ёмісты — $500 мільёнаў з $2 мільярдаў крэдыту. І мы хацелі б папярэдне пры даванні першага траншу рэалізацыі канкрэтных структурных мер, уключаючы меры ў сферы прыватызацыі, якія не былі рэалізаваны падчас выканання папярэдняй праграмы. А гэта адна з асноўных крыніцаў пры папаўненні бюджэту і паляпшэнні плацежнага балансу», — заявіў Сілуанаў.

Шчыра кажучы, прыватызацыя даўно ўжо наспела. І нават не таму, што гэтага патрабуе Сілуанаў. Проста нашы «флагманы» і іншыя прадпрыемствы ўжо не ў стане забяспечыць людзей ані заробкам, ані працай.

Вось, напрыклад, наконт працы. Як паведамляе БелаПАН са спасылкай на афіцыйную статыстыку, у кастрычніку сярэдняспісачная колькасць работнікаў у Беларусі складала 2,97 мільёна чалавек. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць працоўных скарацілася на 2,5%, або больш чым амаль на 75 тысяч чалавек. Прычым, скарачэнне колькасці работнікаў назіраецца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

Груба кажучы, з 9-мільённага насельніцтва Беларусі працу патрэбныя інвестары. Але не так, як кажа Сілуанаў: маючы на ўвазе пад «прыватызацыяй» выключна продаж беларускіх актываў расійскаму капіталу. Гэта мы ўжо праходзілі. Тым больш, што ў Расіі з капіталам зараз будзе вялікая напруга.

Сам факт таго, што «брату і саюзніку» ЕФСР адмаўляе выдаць грошы, сведчыць, што гэтых грошай у Расіі больш няма. І наўрад ці будуць, бо на гэтым тыдні цана нафты маркі Brent апусцілася ніжэй $40 за барэль. Амерыканская нафта WTI упала да $37 за барэль. Расійскі рубель на гэтым фоне наблізіўся да 70 рублёў за долар.

Так што не варта глядзець на Расію. Трэба прапанаваць удзел у прыватызацыі тым, у каго ёсць грошы і хто не будзе ўкідваць іх у «стратэгічныя прадпрыемствы», плануючы скупіць усё, што яшчэ хоць неяк працуе, а зробіць сапраўдныя інвестыцыі.

Давайце прададзім «Гарызонт» Philips, а «Віцязь» — ягонаму канкурэнту LG. Амерыканская IBM даўно прыглядаецца да мінскага «Інтэгралу». А што такое прадаць «Інтэграл» IBM? Гэта значыць, на мінскім заводзе будуць ствараць камплектуючыя для кампутарнай тэхнікі. А дзе камплектуючыя — там і вытворчасць кампутараў, планшэтаў, мабільных тэлефонаў — тых жа Philips і LG. Гэта новыя працоўныя месцы, сучасная вытворчасць, ад рэалізацыі праграмы мер эканамічнага развіцця, якія былі закладзеныя ў план дзеянняў пры атрыманні гэтага крэдыту. Пакуль неабходных рашэнняў па рэалізацыі гэтых планаў мы не ўбачылі, таму адклалі прыняцце рашэння аб аказанні фінансавай дапамогі да таго часу, пакуль не ўбачым канкрэтны вынік», — цытуе кіраўніка Мінфіна Расіі ТАСС.



**Кастрычніцкі сярэдні заробак склаў 409 доляраў, што ў параўнанні з пачаткам года менш на 210 «умоўных адзінак». Што гэта значыць? Гэта значыць, што выцягнуць, як звычайна, грошы з людзей ужо не атрымаецца**

Сілуанаў зазначыў, што існуе адхіленне ад першапачатковых паказчыкаў па росце заробкаў бюджэтнікаў у Беларусі і невыкананне шэрагу паказчыкаў, у тым ліку па дынаміцы тарыфаў на паслугі ЖКГ і транспарт. Больш за тое, ЕФСР настойвае на выкананні ўмоў першага крэдыту. Таго крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС (правапераемнікам якога з'яўляецца ЕФСР), які мы атрымалі ў 2011 годзе, і з якога не скарысталі апошні транш — бо нам яго не далі з-за невыканання ўмоваў крэдытавання.

Зараз гэтая тэма ўзнікла зноў: як патрабаванне распаюць тры мільёны. То бок, адзін працоўны ўтрымлівае яшчэ двух чалавек. А калі ад гэтай колькасці працоўных адмінусаваць міліцыю, войска, дзяржапарат і іншых бюджэтнікаў? На работнікаў «рэальнага сектару эканомікі» будзе прыпадаць чатыры, а тое і пяць «утрыманцаў».

Не дзіва, што заробкі ў краіне ўпалі. Кастрычніцкі сярэдні заробак склаў 409 доляраў, што ў параўнанні з пачаткам года менш на 210 «умоўных адзінак».

Што гэта значыць? Гэта значыць, што выцягнуць, як звычайна, грошы з людзей ужо не атрымаецца. Нават калі ўлады, згодна з патрабаваннямі крэдытораў, увядуць 100-працэнтную аплату паслуг ЖКГ і транспарту і скасуюць усялякія льготы. Магчыма такая сітуацыя, як у Расіі, калі квартплата — больш за заробак чалавека. І зразумела, што ніхто яе плаціць не будзе, а ў транспарце людзі будуць ездзіць зайцамі.

Таму, зразумела, нам патрэбная прыватызацыя. Нам і — агромністы расійскі рынак збыту пад бокам.

І галоўнае — мы яшчэ выканаем пры гэтым умовы ЕФСР. Праўда, не так, як яны тое ўяўляюць, але гэта ўжо іншае пытанне.

Мы і самі можам ствараць нешта новае. На наступным тыдні, кажуць, будзе выкананае адно абяцанне — 17 снежня, па звестках БелаПАН, будзе афіцыйна абвешчана пра запуск сеткі сотавай сувязі чацвёртага пакалення па тэхналогіі LTE (4G) у Беларусі. Рэалізацыяй праекта разгортвання сеткі LTE ў Беларусі займаецца СТАА «Беларускія воблачныя тэхналогіі» (аператар beCloud). І ён разлічвае запусціць 4G-сетку ў Мінску да канца гэтага года, што будзе адпавядаць інвестыцыйнаму плану.

Значыць, можам і мы ствараць нешта прывабнае і інавацыйнае. Галоўнае — проста даць разгарнуцца ініцыятыве. А вось гэтага нашае кіраўніцтва пакуль што рабіць і не ўмее.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Міхаіл Жамчужны

**Беларускія праваабаронцы прызналі заснавальніка цяпер закрытай установы «Платформ Інавэйшн» палітычным зняволеным.**

Такая выснова была зроблена на падставе аналізу ягонай справы, якая слухалася ў закрытым рэжыме.

Паводле праваабаронцаў, уся справа Жамчужнага — сфабрыкаваная, а ўсе эпізоды супрацьпраўнай дзейнасці Жамчужнага здзяйсняліся ім пад кантролем УКДБ па Віцебскай вобласці з мэтай абвінаваціць яго ў шпіянажы.

«Мы не выключаем, што магчымыя супрацьпраўныя паводзіны Жамчужнага маглі стаць вынікам правакацыі злачынства — падбухторвання, схілення, падахвочвання ў прамой або ўскоснай форме да здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў», — зазначаюць праваабаронцы. «Такія дзеянні КДБ цалкам укладваюцца па сэнсе ў праводзімую Камітэтам серыю затрыманняў і абвінавачванняў у здрадзе дзяржаве (А. Гайдукова, А. Алесіна, В. Лазара), якія не скончыліся вынясеннем адпаведных абвінаваўчых прысудаў, але ў значнай ступені мелі на мэце павышэнне ролі і значнасці КДБ у дзяржаве», — гаворыцца ў заяве.

«Разумеючы пад палітычнымі матывамі рэальныя падставы непрымальных у дэмакратычным грамадстве дзеянняў або бяздзейнасці праваахоўных і судовых органаў, накіраваных, у тым ліку, на дасягненне мэты ўмацавання альбо ўтрымання ўлады суб'ектамі ўладных паўнамоцтваў... прадстаўнікі праваабарончых арганізацый прыходзяць да наступнай высновы: асуджэнне Міхаіла Жамчужнага з'яўляецца неабгрунтаваным і палітычна матываваным», — канстатуюць праваабаронцы.



## Станіслаў Шушкевіч

**Экс-спікер Вярхоўнага Савета можа штогод у гэтыя дні быць «асобай тыдня» — за падпісаныя 8 снежня 1991 года Віскулёўскія пагадненні.**

«Больш за ўсё ў сваім жыцці я ганаруся двума справамі: віскулёўскім подпісам і рашэннем вывесці ядзерную зброю з тэрыторыі Беларусі. Не ведаю, што з гэтага больш важна для нашай гісторыі, але мне здаецца, што абедзве падзеі вельмі важныя. Сёння, калі мы ўсведамляем, што адбылося, іх маштаб успрымаецца інакш», — зазначыў Станіслаў Станіслававіч у каментары сайту charter97.org.

«Тады я не думаў, што падпісанне дамовы ў Віскулях — гэта гістарычная падзея і праява нейкай мужнасці. Сёння мяне ўжо прызвычаілі да такой думкі: бо калі задумаешся, што мы замахнуліся дэ-юрэ на Савецкі Саюз — значыць, мы былі не такімі ўжо «слабакамі» або недальнабачнымі палітыкамі. Значыць, мы былі палітыкамі, якія адпавядалі найвышэйшаму ўзроўню разумення сусветных падзей. Фактычна, мы зрабілі тое, чаго нельга было зрабіць у той сітуацыі», — лічыць ён зараз.

## Дар'я Домрачава

**Беларуская зорка біятлона распавяла, што для яе значыць званне Героя Беларусі.**



Домрачава адзначыла важнасць прызнання яе спартыўных дасягненняў, якое стала для яе нечаканасцю.

Кажучы аб званні, Домрачава не раўняе сябе з іншымі героямі: «Некаторыя з іх атрымалі высокае званне за подзвігі ў ходзе Другой сусветнай вайны, і для мяне яны сапраўдныя героі. Гэта людзі, якія былі гатовыя ахвяраваць сваім жыццём дзеля міру ва ўсім свеце. Некаторыя атрымалі ўзнагароду толькі пасля смерці. Не хачу параўноўваць сябе з людзьмі, з якімі апынулася ў адным шэрагу», — цытуе спартсменку «Прессбол» са спасылкай на выданне «Spox».

«Вельмі рада таму, што змагла стаць героем у мірны час. Нам трэба лічыць сябе шчаслівымі, таму што такое магчыма», — адзначае біятланістка.

Нагадаем, Домрачава стала трохразовай алімпійскай чэмпіёнкай пасля гонкі масавага старту ў Сочы. Лукашэнка прысвоіў ёй званне Героя Беларусі. Спартсменка стала першай жанчынай і адной з 11 чалавек, уганараваных вышэйшай дзяржаўнай узнагародай.



**Вялікія шанцы перасесці ў крэсла прэм'ера мае цяперашні кіраўнік Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў. Ён — адзін з трох службоўцаў, якія ў гэтым годзе найчасцей наведвалі прэзідэнцкі кабінет**

# Без вестак зніклы ўрад

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Пасля выбараў мінула ўжо два месяцы, але кіраўнік Беларусі дагэтуль не прызначыў новы ўрад. Чаму? Што адбываецца ў вышэйшых эшалонах улады? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.**

### Урад, якога няма

7 снежня Лукашэнка правёў чарговую нараду з урадам краіны — абмяркоўвалі праекты прагнозу, бюджэту і грашова-крэдытнай палітыкі на 2016 год. І ў гэтым не было б анічога незвычайнага, калі б не адзін нюанс — гэтага ўраду фармальна не існуе. У адпаведнасці з Канстытуцыяй, Савет міністраў склаў з сябе паўнамоцтвы адразу пасля апублікавання афіцыйных вынікаў выбараў — 16 кастрычніка. То бок сёння ёсць проста група службоўцаў, што выконваюць абавязкі міністраў, і ёсць чалавек, што выконвае абавязкі прэм'ер-міністра. Гэта іх па звычцы СМІ і называюць «урад».

Так доўга новы ўрад яшчэ не прызначалі. Натуральна, у беларускай рэчаіснасці сам урад як механізм эканамічнай улады — толькі фармальнасць. Але ўсё ж для ўладнай вертыкалі ёсць розніца, хто падпісвае распараджэнні і іншыя дакументы — міністр або «выконваючы абавязкі».

Між тым, яшчэ 20 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Урад сфармаваны ў асноўным яшчэ да прэзідэнцкіх выбараў. Я пра гэта казаў, ужо другія прэзідэнцкія выбары так праходзяць. Людзі павінны ведаць, хто будзе працаваць пасля выбараў, калі гэтага прэзідэнта абяруць». Але ўжо пасля інаўгурацыі ён заявіў, што «не мае намеру фармальна, аўтаматам падпісваць указы аб прызначэнні [міністраў]». То бок, нешта не заладзілася.

Але што менавіта? Па адной з версій, справа ў перамовах з МВФ. Занадта важныя для Беларусі гэтыя $3 мільярды, без іх нават праводзіць дэнамінацыю вялікага сэнсу няма — інфляцыя хуткаператворыць новыя грошы ў пацяруху. Але калі гэтыя службоўцы цяпер дамаўляюцца з МВФ, то лагічна, што ім жа і рэалізоўваць дамоўленасці. Тады прасцей проста перапрызначыць урад на новы тэрмін і зачыніць пытанне. Але Лукашэнка гэтага не робіць, значыць, справа не ў МВФ.

Можна, вядома, паставіць прэм'ерам нейкую кампрамісную постаць без выяўленай асабістай пазіцыі. Але тады згрызота паміж «ахоўнікамі» і «рэфарматарамі» працягнецца — і ўсё давядзецца пачынаць спачатку. Да таго ж можна ўспомніць, што цяперашні склад кабінета міністраў быў сфармаваны аварыйна, на фоне крызісу снежня 2014-га, і разглядаўся аналітыкамі як пераходны антыкрызісны «ўрад банкіраў» на час падрыхтоўкі і правядзення прэзідэнцкай кампаніі. Гэта значыць, была задача — забяспечыць стабільнасць на год, а там паглядзім.



**«Незразумелыя навацыі» на мове Лукашэнкі — гэта тыя самыя рэформы, якія да выбараў агучвалі Снапкоў і Руды, Мацюшэўскі і Забароўскі**

Іншая версія: Лукашэнка не жадае прызначаць новы ўрад на фоне раз'юшанага дужання двух раўнасільных груповак у яго асяроддзі — «рэфарматараў» і «ахоўнікаў».

Справа ў тым, што тут узнікае праблема з прэм'ер-міністрам. Каго прызначыць? Калі яго погляды будуць адпавядаць поглядам «ахоўнікаў», то «рэфарматары» проста будуць сабатаваць працу такога кабінета. А калі прэм'ерам стане «рэфарматар», то пярэчыць пачнуць ужо «ахоўнікі». Што для ўлады яшчэ небяспечней, бо да гэтага блока належаць кіраўнікі сілавых ведамстваў.

### У чаканні кантралёра

Па маёй версіі, вялікія шанцы перасесці ў крэсла прэм'ера мае цяперашні кіраўнік Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў. Ён — адзін з трох службоўцаў, якія ў гэтым годзе найчасцей наведвалі прэзідэнцкі кабінет. Пры гэтым галоўны кантралёр краіны, «вока прэзідэнцкае», усё часцей выступае ў неўласцівай для сябе ролі — службоўца, які разважае пра тое, як павінна далей развівацца беларуская эканоміка.

Так, 14 верасня ўвечары Леанід Анфімаў з'явіўся ў праграме «Буйным планам» на тэлеканале «Беларусь 1». І загаварыў... аб эканамічных рэформах. «Трэба правесці структурную перабудову эканомікі, але не праз беспадстаўную прыватызацыю, а праз змену структуры ВУП пры захаванні базавых галін прамысловасці і базавых прадпрыемстваў у якасці асновы эканамічнага патэнцыялу. Адначасова варта развіваць малы і сярэдні бізнес, — менавіта так, аказваецца, лічыць Леанід Анфімаў. — Нельга тым прадпрыемствам, якія складаюць аснову эканамічнага патэнцыялу (МАЗ, МТЗ, БЕЛАЗ, Гомсельмаш ды іншыя), цягнуць на сабе, як каням, увесь груз эканамічнага росту. Дэльту паміж высокімі тэмпамі эканамічнага росту ў цэлым і тым тэмпам, які складзецца на гэтых прадпрыемствах, возьме на сябе новы сегмент бізнесу — малыя і сярэднія прадпрыемствы».

Тут, вядома, цікавае не стаўленне Анфімава да прыватызацыі, а сам факт таго, што ён пачаў абмяркоўваць шляхі развіцця эканомікі Беларусі. Але калі пакапацца ў архівах, то апынецца, што пачалося гэта прыкладна на паўгода раней. Так, яшчэ 28 мая ў Полацку Леанід Анфімаў нечакана заявіў, што мясцовыя ўлады павінны ствараць умовы і спрыяць арганізацыі новых прадпрыемстваў. Старшыня КДК патлумачыў службоўцам Віцебскага аблвыканкама, на што трэба арыентавацца ў сферы стварэння новых прадпрыемстваў. «Тут аднымі разнарадкамі і ўказаннямі нічога не зробіш. Трэба ўлічваць асаблівасці горада або раёна — сыравіна, плошчы, працоўныя рэсурсы», — падкрэсліў Анфімаў. Ён адзначыў, што ўлады павінны ствараць перадумовы і спрыяць стварэнню новых вытворчасцяў. А калі ініцыятыва ідзе знізу, і інвестар сам прыходзіць з прапановай аб стварэнні прадпрыемства, яму ні ў якім разе нельга ствараць перашкоды.

Тады ж ён заявіў (менавіта ён, а не Кабякоў), што ў эканоміцы Беларусі павінна адбыцца структурная перабудова. Валаўтваральныя прадпрыемствы павінны выпускаць столькі прадукцыі, колькі могуць прадаць. А каб захаваць агульныя аб'ёмы вытворчасці, частку нагрузкі возьмуць на сябе новыя невялікія вытворчасці.

Можна выказаць здагадку, што менавіта такога — рашучага ды звыклага да негатыўнага стаўлення — службоўца прэзідэнт можа пасадзіць у крэсла прэм'ера для правядзення змушаных рэформаў «пад дудку» МВФ. Бо для правядзення рэформаў запатрабуецца чалавек, здольны на цвёрдыя, непапулярныя меры.

Вядома, тут узнікае лагічнае пытанне: чаму тыя ж самыя рэформы не можа правесці Андрэй Кабякоў? Пасля яго можна было б і адправіць у адстаўку, павесіўшы на яго «ўсіх сабак». Але ж не: Кабякоў па сваім характары чалавек нашмат мякчэйшы, чым Анфімаў. А на першым этапе рэформаў — найбольш балючым — прэм'еру давядзецца не толькі сутыкнуцца з сапраўднай народнай нянавісцю, але таксама вытрымліваць наймацнейшы ціск з боку як урадавых службоўцаў, так і сілавікоў.

Магчыма, Леанід Анфімаў якраз і стане тым самым «цвёрдым і рашучым» службоўцам, які ўзначаліць Савет міністраў на перыяд цвёрдых ды балючых рэформаў. А гады праз паўтара-два, калі самае цяжкае будзе ззаду, яго можна будзе адправіць у ганаровую адстаўку.

### Праблема стратэгіі

Калі ж не казаць пра канкрэтныя персаналіі, то можна выказаць здагадку: ураду да гэтага часу няма, бо няма і выразнай стратэгіі развіцця краіны. Ускосна пра гэта сведчыць і тое, што да гэтага часу не праведзены Усебеларускі народны сход — бо на ім традыцыйна кіраўнік краіны распавядае аб тым, што і як будзе рабіцца ў наступнай пяцігодцы. Але сказаць пакуль няма чаго — і «курултай» не праводзяць.

Можна выказаць здагадку, што Лукашэнка, які славіцца сваёй палітычнай інтуіцыяй, разумее: некалі распяхова «беларуская мадэль» эканомікі вычарпала сябе, рэсурсы (калі не лічыць пазыкі) браць больш няма адкуль. Пакуль ён кажа пра «ўдасканаленне» гэтай мадэлі — але гэта толькі словы. Перамовы з МВФ паказалі: маральна Лукашэнка ўжо гатовы да рэформаў, уключаючы такія непапулярныя меры, як падвышэнне пенсійнага ўзросту, падвышэнне тарыфаў ЖКГ і адмова ад падтрымкі прамысловасці праз інфляцыйныя механізмы.

Калі назіраць за паводзінамі кіраўніка дзяржавы ўважліва, то можна заўважыць: ён панічна баіцца не саміх рэформаў, — але гаворкі пра іх. Вось і 7 снежня прагучала: «...Замест канкрэтнай працы нічога нельга падкідваць, у тым ліку незразумелыя навацыі».

«Незразумелыя навацыі» на мове Лукашэнкі — гэта тыя самыя рэформы, якія да выбараў агучвалі на цэлым шэрагу форумаў Мікалай Снапкоў і Кірыла Руды, Васіль Мацюшэўскі і Аляксандр Забароўскі. Адразу пасля выбараў ужо пяцікратны прэзідэнт у першай жа прамове «ўшчэнт разграміў» рэфарматараў са свайго асяроддзя. Але ніхто з ідэолагаў рэформаў сваёй пасады не пазбавіўся. Гэта значыць, Лукашэнка думае.

Відавочна, што менавіта з гэтага вынікае і тое, што народу Беларусі дагэтуль не прадставілі новы ўрад. Новы ўрад трэба фармаваць пад новую стратэгію развіцця. А яе, гэтай стратэгіі, якраз пакуль няма.

# Прафесар Дунаеў: Наша сістэма адукацыі ніколі не была такой закрытай, як цяпер

Вольга ХВОІН

**Беларусь атрымала ад Балонскага камітэта спіс умоў, якія неабходна выканаць, каб стаць часткай агульнай еўрапейскай адукацыйнай прасторы. Пра тое, ці будуць студэнты з Еўрасаюза вучыцца ў беларускіх універсітэтах і як хутка можна будзе адчуць павевы акадэмічных свабодаў, расказвае сябра Грамадскага Балонскага камітэта, экс-прарэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, прафесар філасофіі Уладзімір ДУНАЕЎ.**

***— Якім чынам Грамадскі Балонскі камітэт атрымлівае інфармацыю пра выкананне дарожнай карты, ці ёсць дыялог з Міністэрствам адукацыі?***

— Дарожная карта — гэта шэсць напрамкаў, паводле якіх павінна выконвацца рэформа вышэйшай адукацыі ў Беларусі. На наш погляд, самае складанае для Беларусі — імплементацыя фундаментальных акадэмічных каштоўнасцяў, такіх, як акадэмічная свабода і ўніверсітэцкая аўтаномія. Тэарэтычна, мусіць быць нейкі міжнародны механізм маніторынгу, але ён яшчэ не наладжаны. Экспертны камітэт, які павінен займацца рэалізацыяй дарожнай карты ў Беларусі, яшчэ ў стадыі афармлення. Ёсць дзве асобы з боку Мінадукацыі, якія ажыццяўляюць камунікацыю з экспертным камітэтам. Уся гэтая дзейнасць быццам бы мусіць быць празрыстая. Але пакуль цяжка гаварыць, што механізм працуе, як і сцвярджаць адваротнае. Грамадскі Балонскі камітэт, Нацыянальная платформа Форума грамадзянскай супольнасці, пры якой створана камісія па кантролі за рэалізацыяй Дарожнай карты, лічаць, што нельга спадзявацца толькі на афіцыйную інфармацыю. Варта ствараць незалежныя інструменты маніторынгу.

Працаваць можна з адкрытымі крыніцамі — заканадаўства, нарматыўна-прававыя дакументы. А таксама глядзець, як нарматыўныя дакументы рэалізуюцца на практыцы. Некалі яшчэ прарэктар БДУ Міхаіл Журaўкоў публічна заявіў, што ў склад савета ўніверсітэта ўваходзіць каля 30% студэнтаў, а на справе было толькі 10%. Праблема нашай дзяржсістэмы — у тым, што адказы ад Мінадукацыі на запыты часта фармальныя. Свежы прыклад — скандальная сітуацыя са студэнцкімі пратэстамі ў БДУ. Паглядзіце, як адказаў на пытанне журналістаў рэктар Абламейка: «Інфармацыя пра ціск, што нібыта меў месца на студэнтаў БДУ, якая распаўсюджваецца некаторымі інфармацыйнымі рэсурсамі і незарэгістраванымі арганізацыямі, не адпавядае рэчаіснасці. Канкрэтныя факты аб кожным падобным выпадку стануць прадметам разгляду на ўзроўні кіраўніцтва універсітэта» (гаворыцца ў адказе рэктара БДУ на запыт БелаПАН). У нашых умовах гэта празрысты намёк на артыкул 193.1 Крымінальнага кодэкса і на крымінальны пераслед за ўдзел у незарэгістраваных студэнцкіх арганізацыях. У дарожнай карце ёсць пункт аб рэгістрацыі студэнцкіх арганізацый. І наўрад ці нешта можа змяніцца ў гэтым плане да 2017 года, калі цяпер бачым такое стаўленне.

***— Беларуская вышэйшая адукацыя будзе прывабная для еўрапейскіх студэнтаў?***

— Для еўрапейскіх наўрад ці. Гэта як экстрэмальны турызм. Не думаю, што наша Мінадукацыі разлічвае, што атрымаецца прыцягнуць студэнтаў з Еўропы. У нас разлічваюць у асноўным на азіяцкіх студэнтаў. Цяпер больш за палову з іх — туркмены. Але гэта не свабодная плынь, а арганізаваны набор, бо ёсць пэўныя міждзяржаўныя дамовы. На жаль, туркменскія студэнты — гэта галаўны боль. Сапармурат Ніязаў правёў страшную рэформу сістэмы адукацыі, якая яе і разбурыла. У іх была ўведзеная 9-гадовая сярэдняя і фактычна 2-гадавая вышэйшая адукацыя. Гурбангулы Бердымухамедаў паспрабаваў аднавіць савецкую мадэль, увесці заходнія ўзоры. Але ў пачатку 2000-х гадоў сістэма адукацыі была так падарваная, што цяпер там усё складана. Ну а кітайцы, якія прэтэндуюць на добрую адукацыю, едуць на Захад, а не ў Беларусь. Магчыма, балонскі элемент зробіць супастаўнай архітэктуру адукацыі, але наўрад ці прыўнясе ў бліжэйшай перспектыве нешта істотнае ў якаснае напаўненне.

***— Якія рэформы чакаюць Беларусь у частцы гарманізацыі адукацыйных праграм?***

— У нас ёсць праблема сярэдняй адукацыі, якая сапраўды не адпавядае еўрапейскім нормам. Адзінаццацігодак у свеце вельмі мала. Звычайна гэта 12–13-гадовае навучанне. Хутка Беларусь далучыцца да міжнароднай сістэмы ацэнкі якасці падрыхтоўкі 15-гадовых школьнікаў. Гэта эфектыўная сістэма ацэнкі, і многія еўрапейскія краіны былі шакаваныя вынікамі. Без нармальнай сярэдняй адукацыі не будзе паспяховай рэформы вышэйшай. Ёсць праблема структуравання навучальных планаў. У Балонскай сістэме не можа быць курсаў, якія завяршаюцца залікамі. Можа быць не больш пяці экзаменаў у семестр. І ўзнікае пытанне: куды не ў школу прафесійнай падрыхтоўкі падзець дысцыпліны тыпу «гісторыя Вялікай Айчыннай вайны», «ідэалогія»? Пры гэтым скарачаецца працягласць навучання.

У нас гавораць пра кампетэнтнасны падыход, але без рэформы сістэмы кваліфікацыі гэта — пустыя словы. Працадаўца мусіць распрацоўваць прафесійныя стандарты, а не Міністэрства адукацыі. І ў дарожнай карце першым нумарам стаіць задача распрацаваць нацыянальную рамку кваліфікацый.



**Уладзімір Дунаеў: «У нас гавораць пра кампетэнтнасны падыход, але без рэформы сістэмы кваліфікацыі гэта — пустыя словы»**

У пачатку 2000-х гадоў была спроба рэфармаваць вышэйшую адукацыю ў адпаведнасці з еўрапейскімі трэндамі. Але гэта не атрымалася зрабіць, бо перакройванне праграмы спараджае тое ж беспрацоўе сярод выкладчыкаў. А рэктары не могуць сабе гэта дазволіць.

Цяпер ёсць прынцыповая дырэктыва Балонскага працэсу, што студэнт і працадаўца павінны фармаваць навучальны план. Студэнты мусяць разумець, што ім трэба, каб паспяхова ўладкавацца на працу, і ў адпаведнасці з гэтым фармаваць свой навучальны план.

***— Сучасная вышэйшая адукацыя ў Беларусі нярэдка не дае працадаўцам спецыяліста. Часам пра якасць адукацыі нават гаварыць не хочацца.***

— Вось на гэты выклік і мусіць адказваць Балонская сістэма. Ніхто не ведае, як замест 5% студэнтаў добра вучыць 80%. І нараджаюцца фантазіі, што, маўляў, у савецкі час прыходзілі ў ВНУ таленавітыя, а цяпер абы-хто. Але справа ў тым, што запыт на вышэйшую адукацыю з боку эканомікі, грамадства ўзрос. І ў нас яшчэ няма і 30% ахопу насельніцтва вышэйшай адукацыяй. У развітых эканоміках першы ўзровень вышэйшай адукацыі патрабуецца практычна ўсюды за выключэннем ручной працы. Мы ж па-ранейшаму ўспрымаем вышэйшую адукацыю як элітарную, але яна ўжо даўно масавая. Першую прыступку сёння варта разглядаць практычна як абавязковую адукацыю.

***— Як вы ацэньваеце моўную падрыхтоўку выкладчыкаў, іх гатоўнасць выкладаць замежнікам?***

— Ды з Еўропы ніхто не прыедзе! Не трэба ілюзій. Ну, прыедзе два з паловаю чалавекі. Калі б у нас былі добрыя праграмы на англійскай мове, можна было б чакаць студэнтаў з Азіі. У Беларусі ніколі не было добра з моўнай падрыхтоўкай. Па ўзроўні інтэрналізацыі нават у савецкі час мы не былі ў авангардзе. Для гэтага патрэбныя іншыя традыцыі, больш адкрытая сістэма. У гэтым годзе завяршаецца Дзяржаўная праграма развіцця вышэйшай адукацыі на 2011–2015 гады, адной з яе задач была ўсеагульная падрыхтоўка выпускнікоў па англійскай мове. І дзе можна ўбачыць лічбы выніку? Гэтая праблема тычыцца не толькі выпускнікоў, але і выкладчыкаў.

***— Ці здолее наша сістэма адукацыі падцягнуцца да балонскіх стандартаў?***

— За тры гады можна шмат чаго зрабіць. Але патрэбная матывацыя. Наша сістэма адукацыі ніколі не была такой закрытай, як цяпер. Можа, прычына ў тым, што ніхто з адміністратараў не верыць у тое, што ўсё будзе выконвацца. Адсюль і памкненне схаваць ад іншых вачэй. І гэта адна з самых сур'ёзных праблем. Другое — замест рэальнай грамадзянскай супольнасці Еўропе падсоўваюць арганізацыі-гонгі. Студэнты, якія хочуць, каб з імі лічыліся, збіраюць подпісы. Іншыя студэнцкія арганізацыі — саветы, студатрады, БРСМ — ніяк на гэта не рэагуюць. І мы бачым карцінку, якую можна прад'яўляць і казаць, што ў нас усё добра. Мы ў 2011 годзе блакавалі ўступленне ў Балонскі працэс, бо беларускія ўлады адкрыта заяўлялі, што ніякіх рэформаў праводзіць не збіраюцца. У 2015 годзе мы настойвалі на тым, каб Беларусь узяла на сябе абавязацельствы па шэрагу патрабаванняў. І ўсе ацэнкі стану беларускай вышэйшай школы і рэкамендацыі па яе мадэрнізацыі, якія змяшчаюцца ў Альтэрнатыўным дакладзе нашага камітэта, знайшлі сваё адлюстраванне ў Дарожнай карце. Наша задача — не перашкодзіць, а зрабіць усё, каб Беларусь стала паўнапраўным сябрам Балонскай сістэмы. Але яшчэ больш важным мы лічым грамадскі ўдзел. Пакуль гэтага не будзе, працэс будзе нежывым і выключна адміністрацыйным.

## Дарожная карта для Беларусі

1. Распрацаваць нацыянальную рамку кваліфікацый. Беларусь павінна перайсці на еўрапейскую сістэму крэдытаў (Еўрапейскую сістэму перакладных залікаваых адзінак, або ECTS). Нацыянальная каардынацыйная група па распрацоўцы сістэмы кваліфікацый павінна быць створаная да канца 2015 года, а праца над укараненнем сістэмы кваліфікацый павінна пачацца ў першай палове 2016 года.
   Ад Беларусі патрабуецца перайсці на ацэнку вучэбнай нагрузкі ў крэдытах, увесці першую ступень (бакалаўра), якая складае 180–240 крэдытаў, і паступова згортваць 5-гадовую ступень бакалаўра, якая існуе цяпер.
2. Беларусь павінна ўзяць на сябе абавязацельствы па забеспячэнні прававой асновы для стварэння незалежнага агенцтва кантролю якасці адукацыі ў адпаведнасці з Еўрапейскімі стандартамі і інструкцыямі. Гэты крок павінен быць зроблены да канца 2017 года.
3. Прывесці заканадаўства ў адпаведнасць з патрабаваннем Лісабонскай канвенцыі аб прызнанні кваліфікацый (дакументаў аб вышэйшай адукацыі). Распрацаваць графік унясення неабходных змяненняў у заканадаўства трэба да канца 2017 года.
4. Да 2017 года павінен быць распрацаваны план забеспячэння аўтаматычнай бясплатнай выдачай Дадатку да дыплома ў фармаце, распрацаваным Саветам Еўропы, Еўрапейскай камісіяй і ЮНЕСКА, на распаўсюджанай мове (не па-руску).
5. Распрацаваць план па забеспячэнні, развіцці і дыверсіфікацыі міжнароднай мабільнасці выкладчыкаў і студэнтаў. Праца над неабходнымі зменамі ў сістэме адукацыі і ў заканадаўстве мусіла пачацца восенню 2015 года, а замацаваны гэтыя змены ў заканадаўстве павінны быць не пазней за сярэдзіну 2017 года.
6. Да канца 2016 года павінны быць перагледжаныя крытэрыі размеркавання студэнтаў-бюджэтнікаў. Размеркаванне павінна быць абмежавана пэўнымі прафесіямі, у дачыненні да якіх у краіне назіраецца нездаволены попыт.
   Што тычыцца акадэмічных свабодаў, то да сярэдзіны 2017 года Мінадукацыі павінна прапанаваць парламенту меры па ўключэнні ў нацыянальнае заканадаўства прынцыпаў Вялікай хартыі ўніверсітэтаў і рэкамендацый Савета Еўропы ў дачыненні да адказнасці дзяржавы за забеспячэнне акадэмічнай свабоды і інстытуцыйнай аўтаноміі.
   Таксама да гэтага часу павінны быць укаранёныя змены, якія забяспечваюць студэнтаў і выкладчыкаў правам свабодна ствараць і рэгістраваць арганізацыі.
   Справаздача аб выкананні дарожнай карты мусіць быць прадстаўлена ў 2018 годзе.

**Кампетэнтнасны падыход** грунтуецца на ідэі, што школа павінна забяспечыць не ведамі, а павінна падрыхтаваць да жыцця. Ідэальны выпускнік — гэта не эрудыт з шырокім кругаглядам, а чалавек, які ўмее ставіць перад сабой мэты, дасягаць іх, эфектыўна мець зносіны, жыць у інфармацыйным і полікультурным свеце, рабіць усвядомлены выбар і несці за яго адказнасць, вырашаць праблемы, у тым ліку і нестандартныя, быць гаспадаром свайго жыцця. Кожная з прыведзеных якасцяў называецца «кампетэнтнасцю». Школе ставіцца задача гэтыя кампетэнтнасці фармаваць.

TV

## 20 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.25** Камедыйная меладрама «Каханне нечаканае прыйдзе» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Гісторыі рамонту.
**10.20** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.05** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.40** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**15.55** Меладрама.
**17.35** Драма «Зводная сястра». 1-я і 2-я серыі.



**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Рамантычная меладрама «Гатэль для папялушкі» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.30** Барахолка.
**13.05** Госці па нядзелях.
**14.00** Каралева палацавых пераваротаў.
**15.00** Святочны канцэрт.
**17.10** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Дыханне планеты.
**21.35** Голас.
**23.35** Што? Дзе? Калі ?
**00.45** Трылер «Метад».

### СТВ

**06.50** Камедыйны серыял «Афрамасквіч-2».
**07.40** Сардэчна паскардзіцца.
**08.00** Аўтапанарама.
**08.30** «Трыкутнік».
**10.15** Чыстая праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 7».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Чалавек-аркестр».
**15.15** Дарагая перадача.
**15.30** «Аўтапанарама».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вадзіць па-руску».
**17.10** «Мяжа. Тайговы раман».
**19.30** Тыдзень.
**20.25** Ваенная таямніца.
**22.40** Зорны рынг.
**23.40** Дакументальны праект.
**01.15** «Чалавек-аркестр».

### Беларусь 2

**07.00** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**08.00** Камедыйны серыял «Хто ў доме гаспадар?» (Расія).



**10.00** «Арол і рэшка». Забаўляльнае шоў (Украіна).
**11.05** Хачу ў тэлевізар!
**11.10** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**12.10** Зразумец і абясшкодзіць.
**12.45** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.55** Фантастычны баявік «Людзі Ікс: Апошняя бітва» (ЗША).
**17.45** Баявік «Ван Хельсінг».
**19.15** Суперлато.
**20.40** Кіпень.
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**22.25** Лірычная гісторыя «Папялушка 4х4. Усё пачынаецца з жаданняў» (Расія).
**00.15** Фантастычная меладрама «Чужаземка» (ЗША-Вялікабрытанія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1994 г.).
**09.45** «Таямніцы палацавых пераваротаў». Гістарычная драма. Фільм сёмы «Віват, Ганна!» (Расія, 2008 г.).
**12.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: Раман Яраш, Лілія Чарняўская, Саша Моцарт.
**13.35** «Калейдаскоп».
**13.50** «Наперад у мінулае».
**14.20** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**15.15** «Музеі Беларусі». Брэсцкі абласны краязнаўчы музей. Музей выратаваных мастацкіх каштоўнасцей.
**15.40** «Калейдаскоп».
**15.55** «Патоп». Гістарычная эпапея. 1-я і 2-я серыі (Польшча-СССР, 1974 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Сяргей Любавін запрашае».
**22.00** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1994 г.).



**23.30** Леанід Млечын прадстаўляе.»Хто забіў сенатара, або Сапраўдная гісторыя ўсёй каралеўскай раці». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**00.10** «Калейдаскоп».
**00.25** Перерыв в вещании.

### Беларусь 5

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**08.15** Хакей. Ароса-Чэлендж. Славакія - Беларусь.
**10.10** Баскетбол. НБА. Аклахома - Лэйкерз.
**12.00** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка.
**14.40** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. Цмокі - Хімкі.
**16.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка.
**17.10** Футбол. Чэмпіянат кубка Англіі. Суёнсі - Вэст Хэм.
**21.00** Футбол. Відэачасопіс.
**21.30** Авертайм.
**22.05** PRO спорт. Навіны.
**22.15** Формула Е. Гран-пры Уругвая.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.50** Ліс Леон, мультсерыял.
**08.00** Чатыры бакі казак, мультсерыял: Шчаслівы чалавек.
**08.05** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.15** Занатоўкі натураліста.
**08.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.30** Беларусы ў Польшчы.
**09.50** Два на два (тэледыскусія).
**10.20** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.50** Ліс Леон, мультсерыял.
**11.00** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**11.10** Занатоўкі натураліста.
**11.25** Сонечная дзіда, серыял.
**11.55** Мова нанова.
**12.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.55** Блакада Ленінграда, д/ф.
**13.50** Форум (ток-шоу): Сецiўны натоўп.
**14.35** Злодзеі ў законе: Жыццё атрымалася, д/ф.
**16.10** Анна Карэніна, драма.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Стамбул ад золку да змяркання, д/ф, 2015 г., Польшча.
**19.05** Невядомая Беларусь: Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф.
**19.45** Сведкі: «Паходня» гарадзенскіх патрыётаў.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Нэлсан Мандэла: жыццё дзеля свабоды, д/ф.
**21.20** Кінаклуб: «Кавярня Любові».
**21.35** Кавярня Любові, м/ф.
**23.35** Я люблю дэмакратыю. Расея, д/ф.
**00.25** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Бункеры Трэцяга райху: ч. 1, 2.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы Час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Увага! Змяніўся кошт падпіскі!

Паважаныя чытачы! На жаль, мы вымушаны павялічыць падпісны кошт. З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб. Падпісны кошт **I квартала** 2016 года — **90 000 рублёў.**

ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир




Фота www.carabaas.livejournal.com

**122 вуліцы ўжо перайменавалі ў Кіеве. Аднак на рускамоўных поўдні і ўсходзе краіны тапанімічная рэформа, як і чакалася, выклікала незадаволенне**

# Грымасы тапанімікі

Алег НОВІКАЎ

**Паводле ўкраінскага закону аб дэкамунізацыі, 21 лістапада мусіла стаць апошнім днём, калі на мапах краіны прысутнічала савецкая тапаніміка. Але на самай справе так не атрымалася. Чаму буксуе тапанімічная рэформа?**

Тры працэнты ад агульнай колькасці населеных пунктаў Украіны — 871 найменне — павінны змяніць назвы ў рамках рэалізацыі закона пра дэкамунізацыю. Гэта без уліку назваў вуліц, плошчаў і нават футбольных клубаў — марыупальская каманда «Ільічвэец» таксама шукае сабе новы брэнд.

Неабходнасць закону аб дэкамунізацыі, што быў прыняты ўвесну, тлумачылі зменамі геапалітычнага вектара краіны, што лагічна звязвалі з адмовай ад савецкай спадчыны, у тым ліку тапанімікі. Саму рэформу планавалася правесці дастаткова хутка, фактычна на працягу пяці месяцаў.

Аднак, як бачым, запланаваныя параметры не выкананыя. Галоўная прычынай, падаецца, — супярэчлівасць і недапрацаванасць рэформы. Перш за ўсё, не зразумела, што трэба пераназываць. Па закону, спіс аб'ектаў для перайменавання вызначае Інстытут нацыянальнай памяці, аднак яго дзейнасць выклікае шмат крытыкі. Так, у Кіеве пад дэкамунізацыю трапіла вуліца імя Емяльяна Пугачова. Пікантнасць сітуацыі палягае не толькі ў тым, што гэты чалавек паклаў жыццё на барацьбу з расійскім самадзяржаўем. Ён яшчэ і паходзіў з «украінскай» станіцы Зімавейскай, якая была заселена выхадцамі з Запарожжа. Гэты факт доўга смакавалі на старонках украінскай гістарычнай і вайсковай прэсы, якую супрацоўнікі Інстытута нацыянальнай памяці, падаецца, папросту ніколі не чыталі.

Шмат смяюцца і з пункту, які патрабуе дэкамунізацыі вулічных назваў, якія звязаныя з прапагандай савецкага ладу. Але агульнавядома, што культ Тараса Шаўчэнкі быў важным інструментам для папулярызацыі камунізму ва Украіне.

Калі ў цэнтральнай Украіне тапанімічная рэформа праходзіла больш-менш спакойна (у Кіеве перайменавалі 122 вуліцы), то на рускамоўных поўдні і ўсходзе краіны яе імплементацыя, як і чакалася, выклікала незадаволенне. Не кажучы пра тое, што мясцовыя адміністрацыі, дзе дамінуюць экс-рэгіяналы, таксама не гарэлі жаданнем мяняць шыльды.

Кіраўнікі адміністрацый што толькі ні прыдумляюць, каб абысці цыркуляры Інстытута нацыянальнай памяці. Напрыклад, у Адэсе тапанімічная камісія гарсавету дасюль не сабралася з-за таго, што яе старшыня знаходзіцца «на бальнічным». А кіраўніцтва суседняга Ільічэўску ўсур'ёз даводзіла Кіеву, што горад названы не ў гонар правадыра сусветнага пралетарыяту, а з-за павагі да святога Іллі. У Валнавасе помнік Чапаеву вырашылі перайменаваць у «Помнік казаку», каб, па словах прадстаўнікоў мясцовай улады, не зносіць манумент.

Далей за ўсё пайшлі аматары захавання тапанімічнай назвы «Днепрапятроўск». Яны вырашылі захаваць статус-кво праз версію, паводле якой горад названы ў гонар існуючага прэзідэнта, які, як вядома, мае імя Пётр. Цікава, што ў абарону старой назвы на днях выступіў і нядаўна абраны на пасаду мэра горада Барыс Філатаў — прадстаўнік радыкальных нацыяналістаў. Гэта адлюстроўвае новую тэндэнцыю, калі лакальныя адміністрацыі за кошт сабатажу рэформы ствараюць сабе імідж апанентаў непапулярнага цэнтральнага ўраду.

Дадатковым фактарам стаў кепскі стан мясцовых бюджэтаў. Асабліва не хапае грошай на рэформу ў раёнаў — ахвяраў вайны.

Матэрыяльныя праблемы дэвальвуюць значэнне рэформы ў вачах насельніцтва. Сведчанне таму — вынікі інтэрнэт-апытанняў на старонках муніцыпальных сайтаў гарадоў наконт новых назваў, якія павінны шукаць адміністрацыі. Спачатку мясцовыя жыхары ставіліся да гэтых апытанняў сур'ёзна, аднак у апошні час яны ўспрымаюцца як сродак іранічнага пратэсту. Так, на сайце гораду Арджанікідзе ў выніку перамагла пазіцыя, паводле якой горад трэба назваць Нью-Ёрк.

Фота www.victoriouspobed.beon.ru

Тым часам супярэчлівая рэформа можна выйсці на новы этап. Стымулам стала незвычайная эпапея з перайменаванем Кіравагграду, які ў гонар расійскай імператрыцы Елізаветы яго заснавальнікі назвалі Елізаветград. Мясцовыя чыноўнікі і частка грамадскасці выступілі менавіта за такі варыянт. Аднак гэта назва, зразумела, не спадабалася нацыянальна арыентаваным грамадзянам.

Жарсці разгарэліся да такой ступені, што ў парламенце з'явіўся законапраект пра забарону надаваць геаграфічным аб'ектам назвы, якія з'яўляюцца імёнамі або псеўданімамі манархаў, дзяржаўных, палітычных, ваенных дзеячаў Расійскай імперыі. Калі закон пройдзе, пачнецца наогул неразбярыха з улікам таго, што вялізарная колькасць гарадоў і вёсак на поўдні краіны ў часы руска-турэцкіх войнаў і каланізацыі краю называлі ў гонар расійскіх чыноўнікаў або генералаў. Гэта — Паўлаград, Сінельнікава, Дэбальцава, Кахоўка, Ілавайск, Енакіева, Акімаўка...

«Перспектывы рэформы па дэкамунізацыі тапанімікі дыферэнцыяваныя па рэгіёнах. У некаторых рэгіёнах гэта ўспрымаюць пасіўна. У некаторых, дзе ў выніку апошніх выбараў да ўлады прыйшлі радыкальныя правыя, змены ўспрымаюцца станоўча, паколькі папулярнасць такіх партый сярод мясцовых таксама вырасла. Ну, і ёсць такія рэгіёны, галоўным чынам на ўсходзе і поўдні краіны, дзе палітыка перайменавання раздражняе насельніцтва. Маркерам гэтага служаць эпізоды, калі мясцовыя ўлады і часам палітыканы пачынаюць гуляць на гэтай тэме. Аднак увогуле рэформа будзе паступова ісці, у тым ліку таму, што ўраду трэба пра нешта рапартаваць, а здабываць перамогі на культурным фронце — самая мілая справа», — лічыць кіеўскі палітолаг Юрый Палянін.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Праблема толькі ў тым, што, у адрозненне ад Януковіча, Бакіева і іншых, Лукашэнка выдатна разумее: адзін няправільны рух будзе каштаваць міру яго народу, а яму самому — як мінімум, палітычнага жыцця і добрага імя. Таксама ён разумее, што стварэнне расійскай базы было б такім няслушным рухам.

**«Новый регион» (Украіна)**

Беларусь па-ранейшаму працягвае прадаваць на Украіну не толькі дызпаліва, патрэбнае для бронетэхнікі, але таксама комплексы навядзення і оптыку, рухавікі і шасі для артылерыйскіх і ракетных установак і нават «лятальныя апараты». Як усё гэта суадносіцца з беларускімі заявамі аб тым, што рэспубліка выступае за аднаўленне міру на Украіне, сказаць складана. (...) Часовая эканамічная выгада можа абярнуцца для афіцыйнага Мінска сур'ёзнымі палітычнымі праблемамі. Адкуль, напрыклад, такая ўпэўненасць у тым, што Расія будзе па-ранейшаму індыферэнтна ставіцца да спробаў гульні з рэжымам, які ледзь не абвясціў ёй вайну і вядзе палітыку генацыду ў адносінах да рускага насельніцтву Данбаса?

**«Ритм Евразии» (Расія)**

Уцэлым беларускі нацыяналізм пачынае ператварацца ў дзяржаўную ідэалогію Беларусі ўсё больш і больш. Нягледзячы на тое, што знешне радыкальныя нацыяналісты працягваюць крытыкаваць Аляксандра Лукашэнку і па-ранейшаму настойваюць на тым, што Беларусь не з'яўляецца нацыянальнай дзяржавай, у цэлым нават у іх прыкметныя змены ў рыторыцы. Напрыклад, падчас апошняй прэзідэнцкай кампаніі шырока трансляваліся прымаўкі накшталт: «Лучше уж на троне Саня, чем на танке русский Ваня». Гэта выразна адлюстроўвае трансфармацыю нацыяналістычнага вектару ў Беларусі.

**«Евразия Daily» (Расія)**

Лукашэнка рые сабе яму. Ён шмат у чым «здаў» культуру і адукацыю на водкуп беларускім нацыяналістам. «Бацька» робіць прыкладна тое што, і Партыя рэгіёнаў, кіраўніцтва якой у асноўным цікавілася толькі «распілам» бюджэту, зямель і энергарэсурсаў, лічачы пытанні адукацыі, рэлігіі, культуры і іншай «ідэалагічнай надбудовы» (па Марксу) малазначнай глупствам. Лукашэнка шчыра мяркуе, што, забяспечыўшы сацыяльную стабільнасць, у чым ён, трэба аддаць яму належнае, займеў поспех, атрымае і стабільнасць палітычную. Але гэта не так. Дзяржаўная ўлада можа быць стабільнай толькі пры ўмове так званай «культурнай гегемоніі», інакш у яе паўстануць праблемы.

**«Сегодня» (Расія)**

Аліеў і Лукашэнка ў гэтай сітуацыі добра падышлі адзін аднаму. Абодвум трэба шукаць варыянты дыстанцыявання ад Масквы, але так, каб яно адначасова было не фатальным, але досыць дэманстратыўным. І пры гэтым не занадта даваць падставы для аптымізму на іншых полюсах. Для Беларусі гэта — Захад, для Азербайджана — Турцыя.

**«Экспресс» (Арменія)**

Аргументы патэнцыйнага закабалення ад МВФ апынуліся для Лукашэнкі нікчэмнымі, у параўнанні з перспектывай адваліць Крамлю яшчэ кавалачак незалежнасці, якая стала святой для кожнага беларуса. Паказальна, што кампанія 2015 года была першай, у якой Бацька актыўна эксплуатаваў лозунгі Незалежнасці, і чымсьці нагадвала тую, якую праводзіў прэзідэнт Кучма гадоў 15 таму. Не слаба так эвалюцыянаваў палітычны дыскурс у самай блізкай краіне, якую амаль кожны расіянін па інерцыі ўспрымае як заходнюю правінцыю імперыі. Але казаць сёння жыхару Мінска, асабліва фізічна развітаму, пра неабходнасць жыць разам пад адзіным чулым маскоўскім кіраўніцтвам не варта. Можна і на «камплімент» нарваца, у тым ліку, вельмі балючы.

**«Нотеру» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Лёня Космас вярнуўся

Леанід Чарнавецкі, былы мэр Кіева, вярнуўся ў палітыку. Нагадаем, што Чарнавецкі праславіўся на ўвесь свет сваёй экстравагантнай палітыкай на пасадзе мэра ўкраінскай сталіцы (2006–2010). Так, напрыклад, ён патрабаваў, каб кожная крама прадавала запісы псапы ў яго выкананні, каб кожны чыноўнік яго адміністрацыі падтрымліваў якую-небудзь жывёлу з кіеўскага заапарка (сам Чарнавецкі быў куратарам слана, якому дасылаў штодня паштоўку) і г.д. Паколькі Чарнавецкі таксама актыўна займаўся прыватызацыяй дарагой муніцыпальнай зямлі, яго канфлікт з абраным у 2010 годзе на пасаду прэзідэнта Віктарам Януковічам быў справай часу. Януковіч дабіўся таго, каб Лёня Космас (мянушка Чарнавецкага) напісаў заяву аб адстаўцы. Пасля экс-мэр з'ехаў у Ізраіль, каб праз 5 гадоў стаць грузінскім палітыкам. Цяпер у Чарнавецкага грузінскі пашпарт, а сам ён — лідар партыі «Шчаслівая Грузія», якая выступае за еўрапейскія каштоўнасці. З'яўленне Чарнавецкага на палітычнай сцэне Грузіі ва ўкраінскіх СМІ нейкім чынам звязваюць з тым, што прыкладна ў той жа час Міхаіла Саакашвілі, які працуе адэскім губернатарам, пазбавілі грузінскага грамадзянства. Прыроду праекту Чарнавецкага можна будзе лепш зразумець падчас выбараў у грузінскі парламент, што адбудуцца ў наступным годзе. Пра намер удзелу ў іх ужо паведаміла «Шчаслівая Грузія».

**Паводле ўкраінскай і грузінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. У памяць пра сухі закон

Нечакана палякі ўзгадалі забаўны, хаця і не круглы юбілей — 2 снежня 1982 года прэзідэнт Войцех Ярузельскі, які з-за вайсковага становішча тады фактычна быў дыктатарам, забараніў прадаваць у крамах алкаголь раней за 13-ю гадзіну. Афіцыйным матывам для антыалкагольнай кампаніі стала тое, што шмат палякаў затрымлівалі нецвярозымі да абеду (4,5 працэнта ад агульнай колькасці тых, на каго быў складзены пратакол за знаходжанне ў нецвярозым стане на публіцы). Ёсць меркаванне, што рэжым спрабаваў за кошт згаданай меры атрымаць падтрымку ў кансерватыўных, каталіцкіх колах. У любым выпадку, палякі ў адказ сталі піць яшчэ больш. Была папулярная песня пра тое, што «дзень на самай справе пачынаецца а 13-й гадзіне». Нядзіўна, што яшчэ да прыходу дэмакратаў да ўлады закон адмянілі. Застаецца растлумачыць, чаму той закон зацікавіў палякаў сёння. Справа ў тым, што з'явіліся чуткі пра тое, што новы кансерватыўны ўрад партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) таксама вось-вось запусціць антыалкагольную кампанію.

**Паводле польскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Каму належыць затанулы галеон?

Хасэ Марыя Ласаль, міністр культуры Іспаніі, заявіў, што Мадрыд павінен тэрмінова ўмяшацца ў справу з затопленым у 1708 годзе каля берагоў Калумбіі іспанскім галеонам «San Jose». 27 лістапада пра яго знаходку ўрачыста распавёў Хуан Мануэль Сантас, прэзідэнт Калумбіі. Верагодна, на караблі знаходзіцца вялікія каштоўнасці. Інакш бы ўлады Калумбіі не абвясцілі пошук карабля дзяржаўнай таямніцай. Так ці інакш, на час, калі галеон пайшоў на дно, ніякай Калумбіі не існавала (краіна атрымала незалежнасць толькі ў XIX стагоддзі). Таму Іспанія, як лічыць яе міністр культуры, мае права патрабаваць як мінімум допуск да працаў на аб'екце. Па-першае, так патрабуе іспанскі закон аб ахове культурнай спадчыны, плюс падобныя прэцэдэнты ўжо былі. Цяжка сказаць, што атрымаецца з ініцыятывы Ласаля з улікам таго, што ў самой Калумбіі ўрад зрабіў вакол «San Jose» сапраўднае прапагандысцкае шоў. Той жа прэзідэнт Хуан Мануэль Сантас абвясціў, што скарб на «San Jose (які ацэньваецца ў некалькі мільярдаў долараў) належыць выключна калумбійцам.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Нацыянальны сімвал у небяспецы

Кыргызская грамадскасць б'е ў набат. Пад пагрозай каўпак — нацыянальны галаўны ўбор. Каўпак — не проста форма капелюша. Яго можна назваць візітнай карткай Кыргызстана. Парадная форма кыргызскіх спартоўцаў на міжнародных спаборніцтвах абавязкова ўключае ў сябе белы каўпак. У 2011 годзе ў краіне быў заснаваны Дзень каўпака. Да гэтага галаўнога ўбору спрадвеку было асаблівае стаўленне: свой каўпак нельга даваць іншаму, ён заўсёды павінен быць чыстым, яго нельга кідаць, здымаць яго варта толькі двума рукамі, класці на спецыяльнае месца або побач з сабой. А таго, хто страціў каўпак, абавязкова чакаюць непрыемнасці. Аднак раптам высветлілася, што сёння знайсці ў Кыргызстане сапраўдны каўпак практычна немагчыма з-за адсутнасці матэрыялаў для яго вытворчасці. Затое каўпакі з кітайскай сінтэтыкі прадаюцца на кожным кроку. Шакаваная гэтым фактам культурная эліта краіны патрабавала ад ураду тэрмінова дапамагчы айчынным вытворцам каўпакоў.

**Паводле кыргызскай прэсы**



Фота www.goodstuffsworld.blogspot.com

# Прыватызацыя космасу пачалася

Алег НОВІКАЎ

**Пакуль увесь свет жыве падзеямі на Блізкім Усходзе, Барак Абама падпісаў закон, які дазваляе амерыканскім кампаніям прыватызаваць аб'екты ў космасе.**

Напэўна, сімвалічна, што новы закон Commercial Space Launch Competitiveness Act (яго яшчэ называюць H.R. 2262), быў падпісаны напярэдадні прэм'еры новай серыі кінасагі «Зорныя войны». Менавіта гэта стужка ў свой час натхніла цэлую генерацыю амерыканцаў пачаць цікавіцца космасам і прапаноўваць самыя неверагодныя праекты.

Паводле падпісанага акту, амерыканскія фірмы атрымліваюць права на эксплуатацыю прыродных рэсурсаў, якія знаходзяцца па-за межамі нашай планеты. Цікава, што першапачаткова ініцыятары планавалі абмежавацца толькі астэроідамі. Аднак сябры Кангрэсу палічылі гэта недастатковым і падчас дэбатаў пашырылі дзеянне Акту на ўсе аб'екты Сонечнай сістэмы.

Такі дзіўны, на першы погляд, закон, які хутчэй нагадвае нейкі твор навуковай фантастыкі, адразу выклікаў іранічныя каментары: маўляў, Дзяржадэп вырашыў стаць канкурэнтам «Пасольства Месяца» — камерцыйнай арганізацыі, што прадае зямельныя ўчасткі на Месяцы. Прычым сертыфікаты, якія выдае «Пасольства Месяца», не маюць юрыдычнай сілы.

Аднак не ўсё так камедыйна, як падаецца на першы погляд. Пачаць трэба з таго, што прыватызацыя ў космасе даўно адбываецца. Яшчэ ў 1961 годзе быў запушчаны першы прыватны спадарожнік Telstar 1, які прафінансавалі тэлевізійныя кампаніі. Хутка да іх далучыліся іншыя кампаніі, напрыклад, тыя, якія займаюцца прагнозам надвор'я. Ужо ў 1965 годзе давялося прымаць закон аб працы такіх спадарожнікаў над Атлантыкай. Цяпер прыватныя спадарожнікі — гэта цэлая індустрыя, якая ўжо на пачатку стагоддзя прыносіла да 6 мільярдаў прыбытку штогод. Актыўна паўстае касмічны турызм. Ёсць фірмы, якія займаюцца планамі эксплуатацыі астэроідаў. Вядучым гульцом у гэтай сферы лічыцца створаная ў 2009 годзе Planetary Resources Inc., якая ўжо паклала вока на некалькі астэроідаў, што знаходзяцца недалёка ад Зямлі.

Па словах лабістаў H.R. 2262, новы закон падштурхне кампаніі, якія ўжо працуюць у гэтай галіне, пашыраць гарызонты сваёй дзейнасці. Змест новага закону дазваляе ім увогуле не плаціць падаткі да 2023 года. Па-другое, закон гуляе на апярэджанне — уводзіць дастаткова прагрэсіўныя стандарты касмічнага бізнесу, на якія так ці інакш будуць арыентавацца ўсе прадпрымальнікі ў Галактыцы. Напрыклад, аўтары H.R. 2262 прапісалі суровую адказнасць за антыэкалагічныя ўчынкі. Ліберальныя эканамісты апладзіруюць закону, называючы яго самым буйным маніфестам у гісторыі цывілізацыі аб прызнанні правоў на прыватную ўласнасць.

Цікава, што ў лагеры аматараў Акту H.R. 2262 хапае і скептыкаў. Яны слаба вераць у тое, што ў хуткім часе магчымая такая аперацыя, як здабыча рэсурсаў нават на адносна не кепска вывучаным Месяцы. Аднак сам факт адкрыцця новага рынку, які дэкларуе новы закон, будзе спрыяць стварэнню новых рабочых месцаў. Не дарма рэкламу законапраекту зрабілі палітыкі з Фларыды, дзе знаходзіцца асноўная амерыканская пляцоўка для запуску ракетаў. У Фларыдзе ўжо чакаюць хуткіх новых кантрактаў на развіццё лакальнай касмічнай інфраструктуры і розных навуковых цэнтраў.

Не хаваюць амерыканцы і стратэгічны інтарэс, якім яны кіраваліся, даючы зялёнае святло для H.R. 2262. Імпарт на Зямлю карысных выкапняў з космасу можа цалкам змяніць геапалітычны пейзаж на нашай планеце. Нават сам факт паставак іншапланетных мінералаў робіць ЗША аднаназначным планетарным лідарам.

Некаторыя навукоўцы з NASA лічаць, што ідэя з прыватызацыяй космасу някепская, паколькі створыць у космасе станцыі, якія будуць самі забяспечваць сябе вадой і палівам. Гэта значыць, што касмічным караблям можна будзе выкарыстоўваць такія станцыі для запраўкі. Такая схема скароціць кошт аднаго галактычнага палёту па разліках Planetary Resources Inc у сярэднім на 50 мільёнаў долараў.

Праўда, другая фракцыя навукоўцаў лічыць, што сектар дасюль знаходзіцца на самым прымітыўным узроўні развіцця. «Большасць кампаній проста глядзяць у тэлескоп на зорнае неба і займаюцца калькуляцыяй будучых гешэфтаў, аднак ніхто дэталёва не разумее, як здабываць рэсурсы на астэроідах і дастаўляць іх сюды», — прызнае адзін з супрацоўнікаў Вашынгтонскага ўніверсітэта.

Натуральна, распавядаючы пра Space Launch Competitiveness Act, нельга не закрануць пытанне, як новы закон суадносіцца з міжнародным правам. Рэакцыя ў іншых краінах на заканадаўчыя навіны з Вашынгтону, мякка кажучы, асцярожная. Па-першае, існуе Дамова пра космас 1967 года, якую падпісала каля ста дзяржаў. Дадзены акт абмяжоўвае выкарыстанне Месяца і іншых нябесных целаў толькі ў мірных мэтах, забараняе іх выкарыстанне для выпрабавання любой зброі, правядзення ваенных манеўраў, стварэння ваенных баз... Таксама ў дамове гаворыцца, што космас не можа належаць якой-небудзь краіне.

Амерыканцы лічаць, што прыняты закон не супярэчыць Дамове аб космасе, пакуль гаворка ідзе пра прыватныя фірмы, аднак яны прызнаюць, што такая інтэрпрэтацыя можа быць не зразумелая ў іншых краінах. Пакуль менавіта так і адбываецца. Характэрная ў гэтым сэнсе публікацыя ў польскай газеце «Rzeczpospolita», якая традыцыйна выступае за сталыя кантакты Польшчы з ЗША. «Ідэя пра тое, што амерыканцы могуць у адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам выкарыстоўваць касмічную прастору, — нахабства», — піша адзін з каментатараў.

Прыхільнікі новага закону прызнаюць, што ён не ідэальны. Аднак, як у свой час для выбуху інтарэсу да космасу быў патрэбны фільм «Зорныя войны», нешта падобнае было неабходна зрабіць у якасці першага кроку і зараз.

# Блакітнае цунамі

Алег НОВІКАЎ


Фота www.cyplive.com

**Некалькі гадоў таму Марын Ле Пэн, лідар французскай партыі «Нацыянальны фронт», абвясціла кампанію «Блакітная хваля» для папулярызацыі сваёй структуры. Калі меркаваць па выніках першага туру мясцовых выбараў, якія прайшлі 6 снежня, хваля ператвараецца ў цунамі. Пра тое, як змянілася Францыя пасля выбараў, распавядае французскі эколаг Габрыэль Пале.**

***— Ці можна сапраўды называць вынікі першага туру рэгіянальных выбараў у Францыі сенсацыйнымі? Нагадаю, што «Нацыянальны фронт» атрымаў большасць у 6 з 13 рэгіёнаў, а пасля другога тура можа мець адносную большасць дэпутатаў у яшчэ чатырох.***

— Безумоўна, таму што на папярэдніх падобных выбарах НФ меў толькі 11 працэнтаў і ўвогуле не меў шансаў узначаліць нейкі рэгіён. Атрымліваецца, што за 5 гадоў партыя павялічыла папулярнасць на месцах утрая. Таксама ўпершыню ў гісторыі НФ на нацыянальным узроўні атрымаў больш галасоў за іншыя партыі — 31 працэнт. Нарэшце, узнікае рэальная пагроза, што да ўлады ў адной з вядучых краін Еўропы прыйдуць правыя папулісты.

***— Чаму французы пачалі галасаваць за НФ?***

— Усе апытанні паказваюць, што прыхільнікаў Ле Пэн турбуе пытанне бяспекі. Увогуле, сярод электарату НФ толькі 30 працэнтаў цікавяцца рэгіянальнай павесткай. Сацыялагічныя апытанні таксама высветлілі цікавую ўстаноўку сярод гэтай катэгорыі. Шмат французаў упершыню ў жыцці прагаласавала за НФ, паколькі яны ўпэўненыя ў тым, што «трэба нешта мяняць, а партыі палітмейнстрыму на гэта не здольныя».

***— Хто больш страціў ад уздыму «Нацыянальнага фронту» — сацыялісты Франсуа Аланда або галісты Ніколя Сарказі?***

— На першы погляд, сацыялісты. Для ўрадавай партыі атрымаць вынік у 23 працэнты — гэта ганьба. Аднак пры ўсім гэтым нейкае кансалідаванае ядро сацыялісты захавалі. У Сарказі агульныя паказчыкі трошкі лепшыя, аднак менавіта яго электарат ахвотней пераходзіць у лагер мадам Ле Пэн. Па-другое, такі сціплы вынік на выбарах — гучная аплявуха вельмі амбіцыйнаму Сарказі, які нядаўна вярнуўся ў палітыку. Вяртанне Сарказі было абстаўленае як сапраўднае шоў. Нават назву яго партыі змянілі (цяпер «Саюз за народны рух» называецца «Рэспубліканцы») для таго, каб прыцягнуць дадатковую ўвагу. Аднак першая кампанія «Рэспубліканцаў» не надта ўражвае.

***— На папярэдніх выбарах пагроза прыходу «Нацыянальнага фронту» да ўлады вырашалася за кошт тактыкі т. зв. «рэспубліканскага адзінства». Галісты і сацыялісты ў другім туры дружна галасавалі за кандыдата, які супрацьстаяў НФ. Што будзе на гэты раз?***

— Пакуль галісты і сацыялісты толькі сварацца і высвятляюць, хто з іх вінаваты ў поспеху Марын Ле Пэн. Сарказі са спасылкай на тое, што НФ упершыню стаў сур'ёзным палітычным гульцом у 1984 годзе, у часы Мітэрана, абвінавачвае левых у фабрыкацыі карычневых монстраў. Сацыялісты ў сваю чаргу выстаўляюць крайнім Сарказі, які запазычыў у Ле Пэн яе ксенафобскія лозунгі. Маўляў, такім чынам ён нармалізаваў агрэсіўную рыторыку ў палітычным дыскурсе. Зараз сацыялісты кінуліся фармаваць адзіны левы блок з камуністамі, эколагамі, што можа дапамагчы ім давесці свой электаральны патэнцыял да 30 працэнтаў. У той жа час «Рэспубліканцы» намагаюцца вярнуць сваіх былых сімпатызантаў, што прагаласавалі за Ле Пэн. Закідваецца лозунг пра тое, што падтрымка НФ — гэта здрада ідэалам Французскай Рэспублікі.

**Пакуль галісты і сацыялісты толькі сварацца і высвятляюць, хто з іх вінаваты ў поспеху Марын Ле Пэн на рэгіянальных выбарах**

***— Ці можна яшчэ сарваць сцэнар перамогі Марыны Ле Пэн на выбарах 2017 года?***

— Прэса жартуе, што Аланд паспяшаўся з увядзеннем надзвычайнага становішча пасля тэрактаў 13 лістапада. Гэта трэба было рабіць пасля 6 снежня, каб у імя выратавання рэспублікі забараніць «Нацыянальны фронт». Шэраг палітычных аксакалаў узгадваюць, што напрыканцы 1970-х гадоў разглядаўся варыянт забароны партыі Жан-Мары Ле Пэна за сувязь з правымі тэрарыстамі з OAS (экс-вайскоўцы, якія выступалі за працяг вайны ў Алжыры). Аднак цяпер забараняць НФ, натуральна, позна. Напэўна, будзе шырокая кампанія супраць Ле Пэн. Ёсць тэмы, якія не менш важныя, чым тэма імігрантаў. Напрыклад, барацьба з беспрацоўем, якое амаль трэцяе дзесяцігоддзе не апускаецца ніжэй за 8 працэнтаў і з'яўляецца сапраўдным кашмарам для французаў. У прынцыпе, не выключана, што за паўтара гады, што засталіся да выбараў прэзідэнта, «Нацыянальны фронт» страціць частку цяперашняй прыцягальнасці. Канкрэтная праца ў мясцовых адміністрацыях — гэта крыху іншае, чым агульныя маналогі пра годнасць нацыі і абарону суверэнітэту.

***— Што зменіцца ў рэгіёнах, дзе ў НФ будзе дэпутацкая большасць?***

— Натуральна, паўнамоцтваў рэгіянальных саветаў мала, каб вырашыць глабальныя праблемы накшталт тэрарызму або скараціць прыток мігрантаў у краіну. Увогуле, нацыяналісты ніколі рэгіёнамі не кіравалі. Ёсць вопыт працы ў гарадскіх адміністрацыях. Правая муніцыпальная палітыка заключалася ў тым, каб зрабіць побыт мясцовых імігрантаў больш няўтульным і даць больш паўнамоцтваў паліцыі. Напэўна, нешта падобнае будзе і зараз. Кандыдат ад НФ у Кале, дзе месціцца шматтысячны лагер нелегалаў, абяцае ў выпадку перамогі не аказваць імігрантам-нелегалам медычную дапамогу.

***— Расійская прэса ўжо зараз у захапленні прагназуе, як пасля перамогі Марын Ле Пэн у 2017 годзе яна і Пуцін зменяць геапалітычны расклад у Еўропе.***

— Тэма партнёрства Пуціна і Ле Пэн адсутнічае ў французскіх СМІ. Гэта нейкія фантазіі расійскіх прапагандыстаў.

***— Бурныя падзеі ў палітычным жыцці праходзяць на фоне Глабальнага кліматычнага форуму ў Парыжы. Ці не стане клімат закладнікам палітыкі?***

— На жаль, менавіта так усё і адбываецца. Тэма клімату амаль не агучваецца ў выпусках навін, хаця менавіта на гэтым тыдні мы пабачым праект фінальнага дакументу кліматычнага форуму. Ужо зараз зразумела, што тэкст выклікае шмат крытыкі і дэбатаў. Мяркую, што інтарэс грамадскасці да Глабальнага кліматычнага форуму вернецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рафаэль Карэа



Па ініцыятыве прэзідэнта Эквадора, якога называюць эквадорскім Чавесам, нацыянальны парламент прагаласаваў за змены ў канстытуцыі. Усяго дэпутаты зацвердзілі 15 паправак. З іх прэса вылучае дзве. Найперш, падкарэктаваны пункт, што ўстанаўліваў абмежаванні для заняцця вышэйшых дзяржаўных пасадаў для адной асобы. Цяпер грамадзянам краіны дазваляецца займаць вышэйшыя пасады колькі заўгодна разоў. Гэта значыць, што Карэа, які кіруе краінай з 2007 года, мае права зноў балатавацца на прэзідэнта на выбарах 2017-га. Другая важная папраўка тычыцца медыя. Усе СМІ ў краіне, паводле новай рэдакцыі Асноўнага закона, рэалізуюць «задачы грамадства». Такая трактоўка, як лічаць журналісты, можа дазволіць Карэа ў выпадку пагрозы яго рэжыму блакаваць інтэрнэт. Хаця галасаванні па папраўках у канстытуцыю Эквадора мелі месца да таго, як былі агучаныя вынікі парламенцкіх выбараў у Венесуэле, гэтыя падзеі шмат хто звязвае. Венесуэла яшчэ ўчора лічылася бастыёнам блоку левых рэжымаў Лацінскай Амерыкі, у якую таксама ўваходзілі Эквадор і Балівія. Правал сацыялістаў на выбарах у Венесуэле можа запусціць працэс эрозіі эквадорскага і балівійскага рэжымаў. Праўда, эканамічныя паказчыкі ў Карэа значна лепшыя, чым у пераемніка Чавеса. Так, у мінулым годзе цэны ў Эквадоры выраслі на 3,5 працэнта, а ў Венесуэле — на 40 працэнтаў.

### Наваз Шарыф



Прэм'ер Пакістана апынуўся ў незвычайнай сітуацыі. 3 снежня ў Лахоры (адзін з гарадоў у Пакістана) на адрас брытанскай каралевы Елізаветы Другой быў пададзены іск у суд. Ініцыятары іску патрабуюць ад Яе Вялікасці вярнуць у краіну славуты брыльянт Кахінор, які цяпер знаходзіцца ў кароне каралевы. Гэта адзін з найбольш славутых брыльянтаў у свеце. Ён вядомы яшчэ з 56 года да н.э. і дастаўся брытанцам у 1849 годзе пасля штурму Лахора, які быў сталіцай Пенджабу. Не выключана, што лідарамі руху за вяртанне брыльянта рухае не столькі жаданне аднавіць гістарычную справядлівасць, колькі намер насаліць Індыі, з якой у Пакістана традыцыйна няпростыя адносіны. Раней індыйскі прэм'ер, будучы з візітам у Вялікабрытаніі, ужо ўздымаў тэму вяртання брыльянта ў Індыю, якая, па яго словах, мае права на каштоўнасць. Іск да каралевы атрымаў моцную падтрымку сярод простых пакістанцаў — яны нават стварылі нешта накшталт грамадзянскага руху, які ўрад Шарыфа не можа ігнараваць. Чым бы ні закончылася гэта гісторыя, мала хто верыць у вяртанне Кахінора ў Паўднёвую Азію. Па-першае, ні Індыя, ні Пакістан не з'яўляюцца афіцыйнымі пераемнікамі Пенджабу. Акрамя таго, афіцыйны Лондан лічыць, што брытанцы брыльянт не выкрадалі, а вывезлі як вайсковы трафей.

### Сяргей Іваненка




Сябра кіраўніцтва найбольш буйной расійскай апазіцыйнай партыі «Яблоко», як пішуць расійскія незалежныя СМІ, хутчэй за ўсё, стане новым лідарам партыі. Такая выснова зроблена на фоне нядаўняга рашэння палiткамітэта партыі абмежаваць знаходжанне на пасадзе партыйнага лідара двума тэрмінамі. Па сутнасці, гэта сігнал да таго, што цяперашні кіраўнік «Яблока» Сяргей Мітрохін, верагодна, не зможа балатавацца зноў. Гэтак жа, як і заснавальнік партыі Рыгор Яўлінскі. Эксперты па-рознаму ацэньваюць наступствы прыходу Іванчанкі на пасаду старшыні. З аднаго боку, на яго няма кампрамату, як, напрыклад, на Мітрохіна, а яго імя звязана з вельмі паспяховымі для «Яблока» 1990-мі гадамі. Тады Іванчанка быў другім пасля Яўлінскага чалавекам у фракцы «Яблока» ў Дзярждуме. Іншыя кажуць, што кандыдат у старшыні вядомы выключна як тэхнакрат і цалкам пазбаўлены харызмы. Не дарма ў яго за плячыма няма ніводнай перамогі па аднамандатных акругах. У любым выпадку, кадэнцыя Іванчанкі, калі яго абяруць на з'ездзе 19 снежня, можа стаць вырашальнай для лёсу партыі на парламенцкіх выбарах.

# Успаміны: Мінск.

Арсень ЛІС

« Заканчэнне. Пачатак у №№ 45, 46

**Абмінуў, але мушу вярнуцца да аднаго з самых першых уражанняў з Мінску. Было тое ў мой прывоз заявы на паступленне ў БДУ. Наш сёння прыгожы праспект быў на той час яшчэ не дабудаваны.**

Дзесь у раёне сённяшняга Нацбанка з радыёталеркі на слупе пачуў упэўнены голас маладога крытыка Б.Б. Газету «Літаратура і мастацтва» я ўважліва чытаў, пачынаючы з восьмага класа. Быў у курсе літаратурнага беларускага жыцця і цяпер, што называецца, настарыў вушы. Чуў чарговую ідэалагічную нагонку. Пракурорскім тонам таварыш крытык прабіраў Максіма Танка за пераклад верша ўкраінскага паэта Ул. Сасюры «Любі Украіну», Аркадзя Куляшова — за верш «Воблака». Але найбольш тое запомнілася, як дапытваў крытык паэта Пятра Глебку за верш «Сны хлапчука». Прытуліўшы малога земляка ў шумным вакзале, паэт прызнаецца, што «сам стаміўся без радзімы і ведае цану жыцця». «Без якой радзімы стаміўся паэт, знаходзячыся ў савецкім тыле?» — грозна дапытваўся крытык, паэўна, не без думкі сцвердзіць сябе ў вярхах, набраць балы...

Было тое пануканне беларускім водгаласам на гучную ідэалагічную кампанію Жданава, скіраваную супраць часопісаў «Звезда» і «Ленинград», каб правучыць, апярэдзіць усялякае адступленне савецкіх літаратараў ад адзіна і заўсёды правільнай лініі партыі. Малады масквіч Б.Б., трапіўшы пасля вайны на жахліва спустошанае поле беларускай пісьменнасці, заяўляў пра сябе як надзейнага наглядчыка за яе пазасталымі рэдкімі ратнікамі. З гадамі ён пацішэў і штосьць пакінуў па сабе вартае ў жанрах тэатразнаўства і эсэістыкі.

Першы месяц навучання пасля лекцый я часцей падаваўся ў бібліятэку цэнтральную, званаю тады ленінскай. Там мог заказаць нешта беларускае, напрыклад, часопіс «Беларусь» за 1945–1946 гады, дзе асачыў публікацыі Сцяпана Александровіча, Міхася Ларчанкі, — штосьць невядомае яшчэ, сваё.

Пазней, ужо будучы на пятым курсе ўніверсітэта, тут, у кабінеце беларускай літаратуры, я змог пачытаць (стала даступна) і часопісы «Маладняк», «Узвышша», а да таго і збор прамоваў беларускіх пасłоў (дэлегатаў) у сойме даваеннай Польшчы. У тым зборніку пасольскіх прамоў мяне ўразілі дасціпным, вострым словам выступы старшыні Беларускага прадстаўніцтва ў сойме прафесара Браніслава Тарашкевіча. Да таго я не ведаў, каб нехта так дасціпна, годна з высокай трыбуны бараніў правы і само імя беларуса. Праз некалькі гадоў мне ўдалося напісаць першую сваю кніжку, і прысвечана яна была жыццю і грамадска-палітычнай дзейнасці гэтага высокаталенавітага, трагічнага лёсу беларускага інтэлігента.



Арсень Ліс з універсітэцкімі сябрамі (трэці справа) 1955 год



Здымак тагачаснага ўніверсітэта

Хоць і ўчашчалі мы да бібліятэкі, асноўныя веды здабывалі, вядома, на лекцыях. І не толькі па прадметах, што павінны былі забяспечыць нашу будучую класіфікацыю — філалогію, але сёе-тое з жыццёвага досведу нашых выкладчыкаў, а часам і студэнтаў старшых курсаў.

З першых лекцый яшчэ запомніліся заняткі лацінскай мовы. Перш-наперш сваім выкладчыкам А. Бандарыным, які неяк ласкава, даверліва загаварыў з намі. Супакоіў тым, што паколькі лацінская мова амаль да Новага часу была мовай навукі і доўга мовай літаратуры ў Еўропе, то нам, будучым філолагам, уведаць яе трэба. Але, вядома, не ў тым аб'ёме, як жывую, абавязковую сёння замежную мову. Маўляў, з большага авалодаем яе граматычнай сістэмай, навучымся са слоўнікам перакладу. Пабачыце, якая лаканічная прыгожая яе форма. Адразу зацікавіў нас прыказкамі: «Jutto, cavat lapidem» — «Кропля (вада) драбіць камень», «Aquila non capit muscas» — «Арол мух не клюе», «Historja est magistrae vitae» — «Гісторыя — настаўніца жыцця». Гэты апошні выраз неяк асабліва запаў у сэрца. Зарыентаваўшыся, што група наша беларускамоўная, Бандарын загаварыў з намі пра беларускую творчую моладзь 1920-х гадоў. Сярод іх была і яго дачка Зінаіда, якая пазней напісала аповесць пра юнацтва Янкі Купалы, а ў 20-я гады з Масквы, дзе вучылася, тэлеграмы бацькам адбівала толькі па-беларуску. Выкладчык казаў, што, мабыць, яго прозвішча ў продках мела форму «Бандарык». Перайначылі, знаць, яго рускія пісцы ў канцы XVIII стагоддзя. А яшчэ аднойчы, стоячы перад сталом, дзе я намагаўся перакласці сілагізм Цыцэрона, загаварыў пра гісторыка Усевалада Ігнатоўскага, пра тое, што раіў яго сынам пасля гвалтоўнай смерці бацькі з'ехаць, каб не падпасці пад рэпрэсіі, бо сыноў, так званых ворагаў народа, улада звычайна не пакідала. Баялася помсты ў будучым?

> Яшчэ ў студэнцкія гады мне пашчасціла пачуць нешта, што дапамагло разабрацца ў прыродзе палітычнай сістэмы, якая нас гадавала. Студэнт-філосаф Аляксей Мурнеў неяк згадаў словы Георгія Пляханава

Даведаўшыся пра гісторыка Ігнатоўскага, я летам 1953 года паехаў у Смаргоні. Зайшоў да маці майго школьнага сябра Ігара Федаровіча. Яна, як тое вынікала з сямейнага альбома, у 1920-я гады была актыўнай удзельніцай мастацкай самадзейнасці на Смаргоншчыне, якой кіраваў беларускі культурніцкі актывіст з вёскі Шутавічы Войцех Шутовіч, расстраляны немцамі напачатку вайны як камуніст, хоць ім і не быў. Я папрасіў яе, каб адвяла мяне да свайго брата, старога беларускага настаўніка, які жыў на хутары, аднойчы я бачыў яго ў Федаровічаў. Пачуў, што меў ён бібліятэку старых беларускіх выданняў. Трапіўшы на хутар пад Свірыдавічамі, пазычыў у яго «Кароткі курс гісторыі Беларусі» Ігнатоўскага і «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага. Апошнюю не паспеў прачытаць. Але ўразілі словы аўтара: «Няма больш занядбанай дзядзіны ў сусветнай пісьменнасці як гісторыя паняволеных народаў». Гэту думку ў дачыненні да беларускага народа тым пацвердзіў кароткa прачытаны ва ўніверсітэце агляд беларускай гісторыі, дзе фактычна не было гісторыі майго народа.

Быў падаў надзею нешта людскае пачуць з гэтай галіны прафесар Абэцэдарскі. Зайшоў у аўдыторыю эфектна, высокі, мажны, прыгожы. Кінуў важкі партфель на лаўку і на добрай беларускай мове 1920-х гадоў на памяць стаў чытаць Багдановічавага «Летапісца»: «Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах, свой век канчае ён у манастырскіх мурах. Тут ціша, тут спакой...», але болей як бы нічога. Наступны раз замест Абэцэдарскага прыйшоў нейкі маленькі чалавечак. Курс яго аказаўся вадой і муццю. Ну нічога, што парывала думку аб нязломных продках нашых, якія і пад Грунвальдам засведчылі, як умелі ваяваць ды здолелі змагчы самае моцнае на той час заходняе, перад усім нямецкае рыцарства. Ну, вядома, не маглі пачуць анічога і пра князя Астрожскага, які даў годны адпор заваёўніку з Усходу.

Абэцэдарскі хіба ведаў пра гераічны аршанскі чын беларусаў, але мусіў паўтараць як мантру аб нібыта адвечнай цязе беларусаў да Масквы, якая, як ніхто цягам усяго XVI стагоддзя нішчыла беларускія землі ўшчэнт, пакінуўшы 48 працэнтаў ліцвінаў-беларусаў пасля паходу цішэйшага рускага цара Аляксея Міхайлавіча, бацькі Пятра, названага Вялікім. Але ўсё гэта мы здолелі ўведаць пазней, з прыходам Перабудовы, з якой адкрылася шырэй заслона ў забароненую зону былой імперыі.

Праўда, яшчэ ў студэнцкія гады мне пашчасціла пачуць нешта, што дапамагло разабрацца ў прыродзе палітычнай сістэмы, якая нас гадавала. Студэнт-філосаф родам з Оршы Аляксей Мурнеў неяк аднойчы ў скверыку перад універсітэцкім корпусам згадаў словы Георгія Пляханава.

У 1917 годзе філосаф вярнуўся з эміграцыі: рашаўся лёс яго Айчыны. Бальшавікі аб'явілі курс на сусветную рэвалюцыю. Выступаючы на сходзе, Пляханаў казаў канстытуцыйным дэмакратам і эсэрам: «В ближайшее время вы погибнете». І далей: «Среди большевиков немало умных, честных людей, но они попадут не в ту комнату, куда идут. И будут идти, как крестоносцы шли за гробом господнем, восклицая при виде каждой колокольни: «Не это ли земля обетованая?». Казаў тое Аляксей Мурнеў пасля выкрыцця так званага культу асобы Сталіна. «Таталітарны рэжым, — і пры гэтым Аляксей разжымаў сціты кулак,— мусіць час ад часу расціскаца, каб не здранцвець». І дэманстраваў расслабленне на дужым сваім кулаку.

Пляханаўскае прароцтва мне помнілася і ўзгадвалася ў кантэксце жыцця краіны хрушчоўскага і брэжнеўскага часоў. У 90-я гады мінулага стагоддзя яно спраўдзілася. Абсурдная па сутнасці думка — перабудаваць увесь свет паводле таталітарнай савецкай палітычнай мадэлі, выдаванай за рэальны сацыялізм, ідэя, да канца прафанаваная Сталіным. Але ўсё гэтае пачутае ў ранняй маладосці было звязана з асэнсаваннем палітсістэмы, у якой мы жылі.

Ды былі ў студэнцкія мае гады і чыста філалагічныя, літаратурныя захапленні і расчараванні. Напрыклад, як нешта зусім новае ў савецкай літаратуры студэнтам ці то першага, ці то другога года навучання адкрыў для сябе творчасць Канстанціна Паўстоўскага. Уразіў праўдзівым увасабленнем жыцця, уласна перажытага. Не ішоў, як большасць, ад зададзенай схемы: паказваць, не як

# Гады студэнцкія

было ў жыцці, а як павінна быць паводле партустаноўкі.

Дарэчы з курсам рускай літаратуры ва ўніверсітэце нам не пашанцавала. Старажытную, XVIII стагоддзя чыталі Мялкіх, Паіна, савецкую — Багалюбава. Адзін толькі перыяд, які ахопліваў творчасць Бялінскага, Герцана, Тургенева, дастойна прачытаў беларускі літаратуразнавец Ф. Куляшоў. Далей чытала, паўтараючы «мерзости царизма разоблачал Щедрин», выкладчыца Чарнова. Меліся чытаць, але не чыталі лекцыі пра творчасць пісьменнікаў Л. Андрэева, А. Купрына, І. Буніна. Да іх творчасці дабраўся сам і меў ад таго вялікую радасць адкрыцця. Асабліва вялікім адкрыццём было для мяне знаёмства з прозай Буніна. Мастацкасць твораў яго неяк асабліва хапала за душу, аж усё, здавалася, сціскалася ў грудзях, парывала кудысь уздымацца. А вось самога пісаць пабуджала, калі чытаў «Рабежнікі» вялікага латыша Андрэя Упіта, «Жана Крыстофа» Рамэна Ралана, «Горкаўскі літпартрэт» Аляксандра Блока, паэзіяй якога захапіўся з курса трэцяга, нямала ведаў на памяць, бо часта звяртаўся ў думках да яго пранізлівых радкоў, строф, зноў жа не раскрытых літаратуразнаўцамі падчас лекцый. А як падумаеш, то і вобмаль за студэнцкія 1951—1956 гады было ў БДУ самавітых, дасведчаных літаратуразнаўцаў ды мовазнаўцаў. Сталінскія рэпрэсіі знішчылі гуманітарную даследчыцкую і выкладчыцкую эліту.

Я заўсёды чакаў нечага для душы ад выкладчыкаў роднай мовы, літаратуры, гісторыі. Сярод першых выкладчыкаў-лінгвістаў пазнаёміліся з аўтарам граматыкі беларускай мовы Жыркевічам, які свае лекцыі адбываў легкаважкімі жартачкамі, без аніякага заглыблення ў прадмет выкладання. Паўтараў адно: «Apres nous le deluge» («Пасля нас хоць патоп») — афарызм-дэвіз караля Людовіка XIV. Здаецца, нашаму выкладчыку вельмі імпанаваў такі дэвіз пажыццёва. Жыркевіча ў роднай мове нам крыху кампенсаваў старэнькі выкладчык Міхал Канстанцінавіч Шапялевіч. Ён арыентаваў аўдыторыю на беларускую лексіку, ідыёмы. Менавіта з яго падказкі я цягам ледзь не ўсяго жыцця натаваў у запісныя кніжкі пачутыя слоўцы, асабліва адметныя прыказкі, прымаўкі, ідыёмы, перш-наперш ад маці, сваякоў, а затым у экспедыцыях, пры цікавых сустрэчах з самымі рознымі людзьмі. Што да замежнай літаратуры, планаванай для студэнтаў-філолагаў, то занадта неабдымны абсяг уяўляла яна, пэўна, і для выкладчыкаў, і для нас. Першароднасць, феномен антычнай літаратуры грэчаскай і рымскай не па плячы быў выкладчыку Лапідусу, хоць і пачынаў ён адольваць гэты курс, здаецца, пафасна: «Гнеў, о багіня, пяі Ахілеса, Пілеева сына...». Глыбейшы выкладчыцкі падыход выяўляў Давід Фактаровіч. Але і яму сярэднявечную ды махіну літаратуры XIX стагоддзя было не адолець. Збіваўся, шаноўны, на эфект, краснабайства. Да сучаснай, XX стагоддзя еўрапейскай літаратуры, не патрапілі дайсці.




Здымак з альбома

З універсітэцкага часу ў мяне пачалося пазнанне Беларусі як фізіка-геаграфічнай і культурнай прасторы Радзімы. Ужо пасля першага курса выкладчыца дыялекталогіі Марыя Жыдовіч, дарэчы, ад яе пачуў найменне ВКЛ — Беларуска-літоўская дзяржава, знаць, засвоіла гэты тэрмін з 1920-х гадоў, калі наша гістарыяграфія не была часткай расійскай імперскай гістарыяграфіі, а развівалася самастойна як навука ўзыходзячай нацыі.

Дык вось, першая наша студэнцкая дыялекталагічная экспедыцыя кіравалася на Навагрудчыну. Дзіўны край, узвышаны ўзгоркамі, з якіх далёка відаць. І ўпершыню ўбачаныя не асобныя дубы, а цэлыя дубровы. І збажына значна большая, чым у нас. Спачатку трапілі ў вялікую вёску каля Карэлічаў — Заполле. У людзей жывая памяць пра 1920-я гады, пра адстойванне свайго пры Польшчы: моцны, дзейсны ў тыя часы і цяпер цікавы ўспамінамі жыхар Монід, ці бацька тутэйшага самадзейнага кампазітара Шэўкі, — смелы дыскутант з польскім камендантам пра Беларусь, беларушчыну. Прысланы паланізатар казаў Шэўку гаварыць з ім адкрыта, абяцаў не арыштоўваць, і Шэўка выкарыстаў гэта абяцанне, каб рэзаць у вочы праўду-матку. А яшчэ захапляў нас цудам-хараством бліз паложанага тут возера Свіцязь. «Ого, Свіцязь! — паўтараў узнёсла. — Другога такога возера на ўсёй зямной кулі не знойдзеш».

Студэнтам я балюча рэагаваў на кожную антыбеларускую праяву. Каб бараніцца, браў на ўспамогу аргументы з беларускай літаратуры. Захоплены паэзіяй Пімена Панчанкі, а як было не захапіцца гэтым шчырым голасам, яго вобразам Беларусі: «Светлы ранак. Жанчына збіраецца жаць. На плячы маладзік — залацісты серп. Бурштыновыя яблыкі ў расе, — гэта ты, мая Беларусь».

> Раніцай прыскочыў у наш пакой Мікола Міхей: «Чулі?.. — шматзначна спытаў. — Здох!». Так адрэагаваў на смерць Сталіна. Навіна прыглушыла. Але ўжо вечарам на шумнаватым праспекце мне, дзевятнаццацігадоваму, было весела, разняволена

Помню, напісаў на стале ў аўдыторыі словы-запавет паэта: «Беларусь, я твой воін адданы і сын, мае думкі і сэрца заўсёды з табою». І шэраг сяброў ставілі пад гэтымі словамі: «І я...», «І я...» і пакідалі свой подпіс. А яшчэ на другім курсе я ўступіў у навуковы гурток і напісаў рэферат «Беларускія пісьменнікі аб мове». На міжгарадскім студэнцкім конкурсе навуковых работ ён заняў другое месца. Уразіла мяне забаронная заява цэнзара на зборнік апавяданняў Францішка Багушэвіча: «Ці не крыецца ў такога роду працы акрамя маларускай літаратуры стварыць яшчэ беларускую». Не ў інтарэсах, маўляў, расійскага ўрада такое. Гвалт, як не хацелі пускаць у свет беларускага слова, беларускай думкі.

І яшчэ з тых студэнцкіх год запомніўся сакавіцкі ранак. Быў я якраз на другім курсе, жыў у інтэрнаце на Свярдлова з Валодзем Сарокам, Косцем Петаковым і Вадзімам Савельевым. Раніцай рана прыскочыў у наш пакой Мікола Міхей: «Чулі?.. — шматзначна спытаў. — Здох!». Так адрэагаваў на смерць Сталіна. Навіна прыглушыла. Але ўжо вечарам на шумнаватым праспекце мне, дзевятнаццацігадоваму, было весела, разняволена. Хоць, вядома, якога вялізнага тырана пазбавілася краіна, увесь свет, я тады яшчэ не асэнсаваў, але не прымаў афіцыёзу ўжо даўно. Перамога над фашызмам да часу прыхавала маштабы злачынства, прычыненага вялікім горцам у дачыненні народаў СССР.

Перажыў я, будучы яшчэ на трэцім курсе БДУ, расчараванне ў Якубе Коласе. Спачатку яны ўдваіх з Кандратам Крапівой заявілі праект аб напісанні па-беларуску «Весна» праз «е» і яшчэ штось нечаканае. Тое неяк не прайшло. Тады я прачытаў трэцюю частку палескіх аповесцей, у якой у крывым люстры пад чужымі найменнямі былі прадстаўлены творцы «Нашай нівы», «нашаніўскай пары ў літаратуры» Іван і Антон Луцкевічы, а з «Хрэстаматыі Ігната Дварчаніна ведаў, як усё было на пачатку XX стагоддзя. Праз многа гадоў размаўляў з Нілам Гілевічам, што Коласу тыя пазнейшыя хады наконт «нашаніўцаў», сярод якіх ён і сам падняўся як паэт, падказаў яго сакратар Лужанін. Вядома, дзеля самаапраўдання класіка перад уладай, што да канца жыцця яму не давярала.

А трэцякласнікам я напісаў ліст народнаму паэту з нязгодай з яго поглядам, але адаслаць не рашыўся. Мусіў лічыцца з вялікім паэтам і не шкадаваў, што так паступіў.

З універсітэтам расставаўся са шкадаваннем: з мінскімі бібліятэкамі, канцэртамі-лекцыямі пра кампазітараў, з купалаўскім тэатрам і яго славутымі акторамі: Глебавым, Платонавым, Уладамірскім, Дзядзюшкам, Ірынай Ждановіч, Ржэцкай... З універсітэцкіх гадоў шчасліва браў з сабою музыку рамантыка Шуберта і вытанчана-элегічныя эцюды а la minor Шапэна. На ўсё жыццё быў уражаны першымі прачытанымі мемуарамі Герцана «Былое і думы». У многіх выпадках гэтаму жанру аддаю перавагу перад творамі літаратуры мастацкай.



З групай студэнтаў беларускага аддзялення БДУ. Май 1953 г. Арсень Ліс другі справа

**Фота з уласнага архіву Арсеня Ліса**

# «Макбет» кліпавага пакалення

Пятро КАМЕНЬ

**У Мінску пачаўся пракат чарговай экранізацыі «Макбету» — найважнейшай п'есы Шэкспіра аб разбуральнай ды паранаідальнай сутнасці ўлады.**



У ролі Макбета — лідар сучаснай брытанскай акторскай школы Майкл Фасбендэр, у ролі лэдзі Макбет — французская зорка Марыён Каціяр, а за рэжысёрскім планшэтам — перспектыўны аўстраліец Джасцін Курзэль. Фільм змагаўся за Залатую пальмавую галінку на сёлетнім Канскім кінафестывалі.

Праз экранізацыі Шэкспіра можна пабачыць не толькі асабісты аўтарскі погляд на класічны твор, але і сучасны стан кіно. Насамрэч, гэта Шэкспір правярае, у якім сусвеце цяпер жывем мы, спрабуючы дакрануцца да ягоных ісцін.

Сучасныя сацыяльныя сервісы кшталту facebook, youtube ды instagram аказваюць неверагодны ўплыў на візуальны шэраг нашай штодзённай рэчаіснасці. Гэта тычыцца ўсіх сфер чалавечай дзейнасці, але ж найвялікшай ахвярай гэтых візуальных манапалістаў з'яўляецца выяўленчае мастацтва. Калі сапраўднае выяўленчае мастацтва перадае нам подых ісціны праз сваё ўздзеянне на нашы сэрцы, то youtube нам «пасціць» у сэрцы штодня нічога іншага акрамя «відосаў».

Шэкспір у эпоху гаджэтаў-планшэтаў-айфонаў акурат і атрымаўся гэткім прыгожым «відосам», дзе акторы — адладжаныя персанажы кампутарнай гульні; сцэнаграфія — шаблонна-ўтульная (нічога лішняга, нічога празмернага); мантаж — шпаркі ды мабільны; кадры — мілыя ды высакародныя, з «рэкламнымі» шатландскімі гарамі, лясамі ды азёрамі; музыка — атмасферна-безасабовая; а галоўны візуальны козыр — слоў-моўшн.

З такім падыходам да Шэкспіра тонкія фарбы чалавечай душы прапісаць на экране наўрад ці магчыма. Затое магчыма зняць эфектны экшн, накшталт кампутарнай гульні. Умовы задаюць вядзьмаркі, яны прадказваюць Макбету і карону, і крыху пазней — пагібель. Яны — «багі», стваральнікі наканаванага лёсу, і персанажы не маюць аніякай магчымасці парушыць правілы ў гэтай кампутарнай гульні.

Фасбендэр стараецца з усіх сіл парушыць гэтыя правілы. Ды і што можа быць для актора больш прывабным за Шэкспіра? Але прыгожыя карцінкі ў рэжысёра Джасціна Курзэля мільгацяць то так імклівa, то так марудна, што месца для ключавой кранальнай акторскай сцэны няма. Тэмп занадта хуткі, а слёзы празмерна рытмічныя... Што тычыцца спакусніцы лэдзі Макбет, то пачварнасць ейнага сэрца тлумачыцца тым, што яна страціла дзіцятка — сцэнарная цікавостка на самым пачатку фільма. То бок спакуса да ўсёмагутнай ды неабмежаванай ўлады грунтуецца на посттраўматычным сіндроме. Ідэя таго, што прага да ўлады сама па сабе вар'яцкая, спакуслівая ды пажадлівая, у такой інтэрпрэтацыі Шэкспіра не знаходзіць месца.

Наканаванасць «Макбету» ды ягоная акуратная «атмасферная» відовішчнасць — адзінае, што застаецца пасля прагляду. У мабільным свеце ўсё проста, усё прыгожа. І душы ў тыранаў такія ж простыя ды прыгожыя, як юніты ў кампутарных гульнях.

# Гаючыя зёлкі ад «Re1ikt»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**«Лекавыя травы» — альбом гурта «Re1ikt» — быў прэзентаваны слухачам у клубе «RE:PUBLIC».**




**Атмасфернасці прэзентацыі альбома «Лекавыя травы» спрыяў і відэашэраг, што адлюстроўваў патаемныя сілы прыроды**

Праца музыкаў стала адной з самых заўважных падзей гэтага года ў беларускай рок-музыцы. Тое, што гэта так, «Re1ikt» хацеў пацвердзіць і «жывой» прэзентацыяй новага альбома.

Сотні маладых людзей, а таксама аматараў беларускага року больш сталага ўзросту, у гэты вечар запоўнілі клубны танцпол і vip-зону ў чаканні той музыкі, якую яны ўпадабалі, праслухоўваючы новы дыск гурта «Re1ikt».

І вось іх чаканні дасягнулі апагею: слухачы адчулі пачатак музычнай дзеі пад назвай «Лекавыя травы», калі на сцэну падняўся адзін з сесійных музыкантаў — саліст гурта «Vuraj» Сяргей Доўгушаў, які і распачаў праграму прэзентацыі акустычным intro. Выкарыстоўваючы патэнцыял народных духавых інструментаў, Сяргей стварыў адпаведную атмасферу цудадзейнасці водараў лекавых траў, гукаў лесу і поля, напаўзабытых народных мелодый, якія гучалі ў яго выкананні рэхам далёкіх вякоў.

Атмасфернасці прэзентацыі альбома «Лекавыя травы» спрыяў і відэашэраг, што адлюстроўваў патаемныя сілы прыроды і духоўную моц захавальнікаў яе сакральных тайнаў. Пра іх распавядала Зоня Ігнатаўна Рудзько — траўніца з вёскі Рэчань Любаньскага раёна, якая і натхніла музыкантаў на стварэнне гэтага альбома.

Пасля такога заглыблення ў генетычную памяць продкаў, слухачы, нібыта зрабіўшыся больш відушчымі, віталі з'яўленне на сцэне музыкантаў гурта «Re1ikt». Трэба адзначыць, што ў шматлікіх інтэрв'ю і рэцэнзіях на гэтую студыйную працу крытыкі аперуюць такімі стылістычнымі вызначэннямі, як «цяжкі рок», «арт-рок» і нават «пост-рок». Усе яны ў гэтым пытанні маюць рацыю: кожны з гэтых стылістычных напрамкаў рок-музыкі прысутнічае (хоць і ў розных прапорцыях) у кампазіцыях гурта.

Але ў выпадку з «Re1ikt» аддаць перавагу нечаму аднаму не выпадае. Гурт мае свой адметны, арыгінальны музычны стыль, які патрабуе ўважлівага ўслухоўвання, суперажывання і эмацыянальнага кантакту. Тут і фальклорная аснова мелодый, і арт-рокавыя паліфанічныя аранжыроўкі, і цяжкія рыфы экстрэмальнага pagan-metal. Таму слухачы так упадабалі выкананне загалоўнай кампазіцыі альбома — «Лекавыя травы», іншых фальклорных кампазіцый, такіх, як «Хадзіла галота», «Люцэрна», «Дождж ідзець».

Асобна трэба вылучыць сцэнічны і гукавы авангард гурта: маю на ўвазе шыкоўныя гітарныя партыі Віталя Макшуна і харызматычны артыстызм вакаліста «Re1ikt» Уладзіміра Казлова, які, да таго ж, знаходзіў магчымасць падчас выканання песень зайграць сола на дудцы і духавым піяна.

**Больш падрабязна пра прэзентацыю чытайце на нашым сайце novychas.by**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1563

Падпісана да друку 11. 12.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.